Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# МАЛАДНЯК

Штомесячная літаратурна-мастацкая і грамадзка-політычная часопісь ЦК КПБ(б) і ЦК ЛКСМБ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
ГЭССЭНА, М. ЗАРЭЦКАГА, М. АДЗІНЦА

Год выданьня чацьверты

Сшытак шосты
ЖНІВЕНЬ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1926

**Л. Чарняўская**

# Бязьдзетуха

I

Суседкі сядзелі на бёрнах супроць Панасавай хаты і гаманілі сьціха. Аўгінка з дзіцянём на руках стаяла паблізу і з нецярплівасьцю чакала, калі-ж кончыцца гэтая бабская гутарка. Маці на хвілінку аддала ёй падзяржаць дзіця, а ўжо, мусіць, другую гадзіну гамоніць і гамоніць з суседкай, бязьдзетухай Арынай.

Аўгінка ня слухала іхняй размовы. Бо аб чым, цікавым для яе, маглі яны гаварыць? Сто раз чула яна гэткія вось гамонкі: той сказаў тое, тая зрабіла гэта. Нараканьні-ж маткі на недастаткі, на вялікую сям'ю толькі будзілі лішні жаль у сэрцы дзяўчыны.

Досыць яна, як большая ў сям'і, маець працы і клопату ў будні. А сягоньня, у нядзелю, прывязаць яе тут з дзіцёнкам на руках! Забылася, мусіць, маці, што ўчора яшчэ згадзілася пусьціць яе разам з другімі дзяўчатамі ў Замошша па дурніцы.

Дзяўчаткі ўжо зьбіраліся кучкамі, вось-вось пойдуць, а яе ня гукнуць.

Аддаць-жа матцы дзіця Аўгінка не адважвалася. У строгасьці і послуху гадавала тая дзяцей; столькі разоў перад людзьмі выхвалялася, якія паслухмяныя яе дзеці. І цяпер перад суседкай напэўна захоча паказацца, якая зьмірная дзяўчына яе дачка.

Плюшчыла сінія вочкі Аўгінка, углядаючыся ўздоўж вуліцы. Там, на канцы, ля Зьмітраковае хаты, гудам гудзела, сьмехам порскала: цэлы груд дзевак і хлапцоў сабраўся. Дзеўкі кошыкамі дзяцюкоў адганялі, каб ня ліплі, „як дзёгаць да босае нагі“.

Асьмелілася Аўгінка, падышла да маткі, хоча прасіцца ісьці да таго вясёлага карагоду, але бачыць, тая—адна цікавасьць: слухае, як ня зьесьць кожнае слова, што гаворыць Панасіха.

Услухалася Аўгінка і ёй цікавым здалося, бліжэй падсунулася.

А Панасіха, углядаючыся ў даль, як у сваё мінулае, вось што расказвала:

— Прышоў тады Панас з салдатаў. Ізноў стаў ка мне хадзіць і пытаецца: „Ну, ці пойдзеш ты за мяне?“ А я й сама ня ведаю. Любіліся мы раней дужа. Гляджу на яго: худы такі стаў са службы, як прыбіты які. І шкода мне яго стала. Ведаю, што ніхто добры замуж мяне ня возьмець—дужа ўжо бедна мы жылі. Хіба батрак які пасватае. А ў Панаса гаспадарка якая-ні-якая, а ўсё свая. Падумаю, падумаю: што як і я ў матку сваю ўдалася,—пачну па двое дзяцей штогод вадзіць,—згнію ў беднасьці. Што баюся дзяцей, дык і сказаць не магу. Аж ад некага дачулася я, што ў Бушыках жывець такі варажбіт, што ўмее вываражыць, колькі ў каго дзяцей будзе. Стала я курэй сачыць, яйкі зьбіраць. Можа і ад чужой курыцы яйцо прыбрала—цьвёрда не зракуся; сабрала яец з дзесятак, а ў нядзелю, украўшыся, шась к таму варажбіту. Сядзеў ён адзін у хаце, касавокі, божа сьцеражы, які. Адно вока па хаце бегаець, а другое пад лоб глядзіць. Сабрала я сьмеласьці, аддала яму гасьцінца, прашу яго паваражыць. Паглядзеў ён у карты, руку маю пасьля ўзяў, пальцам па ёй павадзіў-павадзіў, зубы вышчарыў: „Дзевяць сыноў у цябе, дзеўка, будзе. Гадуй цару салдат“. Усё роўна як цэглінай па галаве ён мяне гэтымі словамі стукнуў; у вушох зашумела, толькі што на падлогу са слабасьці ня села. Бачыць гэта чараўнік той, ды кажа: „Калі маеш, дзеўка, адвагу, дык нясі бутэльку гарэлкі, навучу цябе, як ад дзяцей асьцерагчыся“. Усякім спосабам наскрабла я грошы на бутэльку. Аддала варажбіту гарэлку і прашуся: „Ну, вучы, калі сам умееш?“—„Слухай толькі пільна“, адказвае: „Налі ў пляшачку сьвянцонае вады, вазьмі асінавы калок і, як пятухі поўнач закрычаць, ідзі на раздарожжа; там нічога ня пужайся, дастань тым калком з-пад крыжа зямлі ды ўсып яе ў тую сьвянцоную ваду, а сама як-га бяжы дамоў. Ваду гэтую ўзьлі на печ ды слухай, колькі галасоў будзе плакаць. Усе дзевяць і зьлічыш“. Усё чысьценька, як ён казаў, зрабіла. Як лінула я вады на печ, зашумела нешта, заплакала на печы. Стала я лічыць галасы: дзевяць галасоў. Трудна мне стала: гэта-ж мае дзеткі плачуць. Нікому я тады

ані слоўцам ня прызналася. У скорым часе я і замуж за Панаса пашла. Ён троху на здароўе слабы, затое я здаровая: і бабскую і мужчынскую работу вярну—жывём не галодныя. А дзяцей у нас як няма, дык няма. Раз пачаў ён нешта разважаць: „Чаму гэта ты, баба, такая здаровая, а плоду ад цябе нямашака“. Я вазьмі ды прызнайся. А-ей, што ён ускінуўся на мяне, сварыўся што, з хаты мяне гнаў. Потым сьціх. Хто-б яму працаваў так, як я? Доўга, доўга дудзеў, пакуль я грэх свой на споведзі папу не здала. Сем пятніц да цёмнага нашча сядзела, поўтрубкі палатна, фунт воўны, парася, ахвяры матцы боскай занясла. Жывём вось цяпер адны і ці ладна ці дрэнна тады я зрабіла тое, дык і цяпер ня ведаю, не дадумаюся.

Суседка Мар'яна галавой закруціла.

— Праўду той варажбіт казаў, што адвагі шмат трэба. Жартачкі, трэба столькі сьмеласьці на грэх сабраць, каб апаўночы на раздарожжа йсьці. Я, здаецца-б, ніколі, ніколі...—і тут убачыла, што Аўгінка кладзець ёй дзіця на прыпол.

— І ты тут слухала?—накінулася маці на дачку.—Расчыніла вушы і слухае. Як добрае што, дык кажы ні кажы, не пачуеш, а благое само ў вушы лезе.

— Во цікава мне ваша там... бабскае! Ці можна мне ў дурніцы йсьці?—зьбіла размову з дарогі ўбок Аўгінка.

— Ідзі, ідзі сабе. Толькі не вырабляйся так, як вун Андрэева Параса. Ёй і ў дурніцы не па што йсьці. І бяз дурніц—дурніца.

Аўгінка, не даслухаўшы матчыных навучаньняў, як віхор, панясласся па вуліцы. Падслуханае ад баб адразу з галавы выскачыла. Толькі ў Замошшы, калі брала сінія з бялёсым налётам, як чые п'яныя вочы, дурніцы, і ў галаве кружыла-дурманіла ад прывязьлівага паху багульніка, паміж іншых думак, узьбегла на падслуханую таямніцу. Падумала: „Варта расказаць, дзевак навучыць, ды стала сорамна“, і нікому ў тым, што чула, ня прызналася.

## II

Прашло лета, а за ім і другое. Мінула Аўгінцы семнаццаць год. Выцягнулася яна, вырасла, як тая каліна, што ў песьні пяецца, „увесь луг акрасіла“. Дзеўка і да работы, і да гульні на сяле першая. Матка за дачкой пільна даглядае, каб

па начох не хадзіла, каб і, у людзёх гуляючы, з хлопцамі па куткох ня тулялася, каб самая брахлівая баба на дачку яе зьвягнуць не пасьмела. Дарма толькі клопату сабе столькі давала старая. Дзіця яшчэ была Аўгінка, хоць і вырасла такая відная ды фігурная. Калі вясёла дзеўцы, дык хоць з катом дурэць і сьмяяцца рада яна; скакаць—ці з хлопцамі, ці з дзеўкамі, ці з дзяцьмі, усё адно ёй. Абы музыка была.

Глядзела яна, як мілуюцца дзеўкі з хлопцамі. Раскажа калі ёй каторая, што цэленькую ночку, прытуліўшыся да любага ды за рукі пабраўшыся, прасядзела...

Але ня было ў Аўгінкі нікога, ніводнага, з кім-бы так пасядзець захацелася.

Часам, як варочалася з гульні, а сон яшчэ ня прышоў выходзіла яна з хаты ў садок, і там, прыхінуўшыся лобам ці шчакой да дрэва, доўга слухала песьні гульцоў (ня ўсіх-жа дзевак маткі рана дамоў гукалі), і здавалася ёй, як-бы нехта, незнаёмы, але такі блізкі, любы, стаіць побач, жалеець, мілуець яе... Потым адчувала, што сырая кара дрэва муляець лоб, ачыналася, самой сьмешна рабілася, і бегла ў хату спаць.

На кірмашы ў Забор'і, на веснавога Міколу, выглядзеў яе хутарэц Альшэўскі, чалавек ужо сталага веку, багаты, адзінокі. Жыла з ім толькі матка. Сёстры замуж павыходзілі, брат у нямецкую вайну загінуў.

Да вайны не пасьпеў Альшэўскі ажаніцца. На вайну пашоў, руку з акопа выставіў: адзін палец адстрэліла,—адпусьцілі дамоў. Ні на якую вайну ён больш не пашоў. Спачатку хаваўся, потым з кім трэба пасябраваўся: у папа мэтрыку няправільную выправіў, у воласьці падладзіўся са сьпіскаў ліст патрэбны яму выдзерці—і выкруціўся.

Урэшце, як жыцьцё пашло пэўным торам, пастанавіў ажаніцца. За багацьцем ён ня гнаўся, сам усяго меў удостатку, абы ўзяць дзяўчыну маладую, здаровую, на работу спраўную. Матка стара стала: ад працы стогне, крэкча, на сына наракае. Батрачку дзяржаць—адзін клопат цяпер з імі: у горад вазі, запісвай, грошы за яе плаці. А ці зробіць чужая, наёмная, тое, што сама гаспадыня?

Паехаў на кірмаш Альшэўскі з пэўнай думкай: да дзевак прыгледзецца, у людзей пра гэты тавар распытацца. Жарабок добры ў яго, нагамі па бакох кідаець, на коні чужых

равець, ягочыць. Сам хутарэц пагаліўся, падмаладзіўся, у чорнае прыбраўся, адно слова—кавалер.

Паставіў ён каня на знаёмым двары, ад пылу абтросься і пашоў па кірмашы шукаць знаёмых і разглядацца па людзёх.

З адным пагаманіў, з другім, стаў на ўзгорку ля царквы, і ўпала яму ў вока Аўгінка. Па сваім сяле ходзіць яна, як свая: вясёлая, радая, але бяз тых плямных выпекаў на твары, як прыхадзяшчыя дзеўкі.

Папытаўся кавалер у знаёмай заборскай бабы: хто ды чыя гэта дзяўчына. Бабскі нос у гэтым пытаньні нешта ўнюхаў, а з тэй прычыны, што кумой яна Аўгінкіным бацьком даводзілася, падхваліла яна дзяўчыну так, што хутарэц хоць сягоньня ў сваты гатоў.

У суботу ўвечары зашумелі шумкі пад вокнамі Васілёвай хаты.

Сваты былі неспадзяваныя. Хоць кума Рыпіна пляскала языком, што спадабалася замасянскаму хутарцу іхняя дачка, як кату мяса, што і ў сваты ён прыедзе, але бабе веры ніхто дужа ня даў. Збрахала можа, каб пасьля перад людзьмі з іхжа пасьмяяцца.

Аўгінкі дома ня было. Цэлы дзень яна чысьціла, прыбірала ў хаце, падлогу галянём вышаравала, прыбрала багоў у новыя, сваёй работы, набожнікі і, пакуль даіць кароў, скочыла на возера за аерам,—пасыпаць падлогу, кажуць—блохі яго духу баяцца.

Яшчэ здалёку ўбачыла яна, што бабы тоўпяцца каля дзьвярэй іхняй хаты. Дзяўчаткі-падлеткі віські на рамах вакон, заглядаючы праз шыбы ў хату, а хлапчукі асаджвалі іх за спадніцу ўніз.

Адразу і ня сьцяміла Аўгінка, у чым там справа. Сэрца яе закалацілася моцна, шыбка пабегла яна к хаце, прыціскаючы аер да грудзей.

Дзяўчаты кінуліся ёй насустрэч і на дзесяць галасоў разам стрэльнулі па ёй навіной.

Ня ведае цяпер Аўгінка, куды ёй дзецца, хоць ты ў хату ня йдзі.

Старая Рыпіна за руку ўвяла яе ў хату, кажучы:

— Во, і пасылаць па яе ня трэба, сама прышла.

Аўгінка стала ля парога, як мак, чырвоная, а вочы глядзець не падымаюцца.

Уся ўвага сватоў зьвярнулася на яе. Пільней за ўсіх углядаўся ў яе жаніх; з усіх бакоў вачамі так і шчупаў. Калі тавар купляеш—трэба добра глядзець, каб падману, фальшы якой ня было. Тавар-жа, відаць, быў першага гатунку, і вырашыў Альшэўскі нікуды больш ня кідацца, каня дарма не ганяць, людзей не турбаваць, а тут канчаць справу.

Бацькі дзеля прылікі толькі пагаварылі, што няхай-бы яшчэ пакрасавалася дачушка ў роднай хаце, але па вачох іхніх, па ўсім абыходзе пазнала Аўгінка, што маюць яны вялікую ахвоту аддаць яе ў багаты двор.

Загадалі дзеўцы за стол сесьці, самагонкі да жаніха выпіць.

Рушыўся ў яе той радасны настрой, які панаваў над ёй цэлы дзень, калі яна зморaная, ды разам з тым чуючы здаваленьне ад працы, бегла к возеру, мачыла ногі ў цёплай сагрэтай за дзень сонцам вадзе, як ірвала пукі аеру і дражніла жаб „квэ-квэ“. Прапаў і той страх, які ахапіў яе, калі даведалася пра сватоў. Нейкі нудны, ліпучы туман аплёў мазгі, паразлучаў думкі. Часам як-бы сама на сябе з боку пaглядала і тады дзівілася.

Запілі Аўгінку.

Заснула яна з цяжкой галавой, але малады сон—моцны, і ўсе думкі аб сватох за сабой панёс.

Устала дзяўчына на раніцы, а ёй ані ў галаве ўчарашняя сватаньне. Толькі, калі замятала хату і бразнулі пад сталом бутэлькі, яна раптам усёй істотай сваёй успомніла пра ўчарашні вечар. Венік сам з рук иываліўся.

Да апошняй надзеі да апошняга свайго падтрыманьня—маткі зьвярнулася дзяўчына.

— Не пайду я, мама, замуж. Не хачу...

А сьлёзы з вачэй па твары адна па адну ўздагон бягуць.

— Ну чаго ты плачаш, каб хто папытаў? Замуж ня хочаш? Гэта-ж толькі старыя дзеўкі замуж просяцца і з радасьці аж скачуць, калі які дурны ашукаецца. Вядома-ж, маладой боязна. Але-ж трэба йсьці. Жарты, на такое багацьце... Гэтак-бы і сьвет зьвёўся, каб дзеўкі замуж ня йшлі. Не табой пачалося і не табой кончыцца. Ды будзе яшчэ час, пагамонім аб гэтым, а цяпер мый бульбу сьвіньням!

Тым размова і кончылася. Прабавала яшчэ колькі разоў плакаць дзяўчына, прасіцца ў бацькоў, ды як зьезьдзіў Васіль да Альшэўскага, паглядзеў на дабро яго, то ці-ж ён дзіцяці свайму вораг, каб на такое выгоднае жыцьцё яе не аддаць.

Вясельле вызначылі на Духа. Строіцца Аўгінка к вясельлю. Дзеўкі, дзе ні зьбяруцца, вясельныя песьні ёй пяюць, без пары ў сьлёзы ўводзяць.

А тут яшчэ, як прыдзе Петраковых маладзіца, дык і больш жару надасьць. Тры гады толькі маладушка замужам, а ўжо двое дзяцей маець і трэцім ходзіць. Памятае Аўгінка яе вясельле. Як ягада чырвона была тая тады. А цяпер схудзела, счарнела, састарэла без пары. Гняўлівая стала, як кабыла надарваная ды наравістая, што зубамі так і хапаець.

Страшна Аўгінцы цяпер глядзець на суседку. Жудасьць бярэць. А ну і ёй такая ўдача на дзяцей пойдзе. Усплыла на памяць таямніца, падслуханая ў старой Панасіхі.

Думае, вагаецца дзяўчына, што ёй рабіць? Грэху страшна. Кажуць, што дзяцей бог пасылаець. Як-жа іх губіць самой.

Раз, як жала жыта, чула, казалі бабы, што палуднічкі, што зьвіняць у поўдзень над галавой, усё гэта душачкі дзяцей ненароджаных, без пары маткамі загубленых. А колькі іх там зьвініць! Значыцца, не баяліся грэху!

„А я-ж зраблю так, што іх і зусім у мяне ня будзе. Не хачу я дзяцей ад таго старога, нялюбога. Нашто мяне бацькі, як карову на кірмашы, за добрую цану аддаюць. Гонар ім з багатырамі зрадніцца і гарэлку піць. Сьвякрова мая ўжо наперад загадала, каб я да году радзіла. Зямлю, кажуць, будуць рэзаць, дык, калі яшчэ душа будзе, менш зямлі адкусяць ад багатыроў. Ну, дык няхай на мяне не спадзяваюцца. Не хачу я вам ваша племя вадзіць“... узбунтавалася дзяўчына.

Удзень Аўгінка выбрала час, прыхавала калок і бутэлечку з сьвянцонай вадой.

Лягла дзяўчына ўвечары на сваю пасьцелю. Думкі ў галаве, як сьвіньні па полі, самапасам, куды каторая,—у кучу не сабраць. Няўпрыцям задрамала, але крыкнуў певень, адразу пачула. Страпянулася яна, накінула армяк на плечы, вышла за дзьверы і праз разьбітую шыбу ў вакне рукой дастала крук зашчапіць. Нашла калок і ваду і пабегла цераз садок, цераз сваю паласу на дарогу. Свой сабака да яе прывязаўся. Не ха-

цела гнаць, каб голасу не падаць, ды і сьмялей з сабакам па начы хадзіць.

Ноч ціхая, цёмная. Неба хмарнае, а вецер паўзець цяплынёй у твар. Збоку, ля возера, агні ходзяць, мусіць, ракі ловяць. Успомнілася дзеўцы, як ужо колькі таму будзе, яшчэ пры панох, выпрасілася яна ў бацькі ісьці з ім разам ракі лавіць. Толькі бацька запаліў пук саломы, даў ёй дзяржаць сьвяціць, толькі ногі яна ў ваду памачыла, як стрэліць нехта над возерам,—шрот ля яе па траве пасыпаўся. Ой, страху, страху ёй было тады. Ледзь жывая дамоў прыбегла. Бацька расказаў ёй, што гэта паніч возера сваё вартаваў, людзей адганяў.

Цяпер-жа гэтыя сьмелыя агні дзяўчыне сьмеласьці паддалі. Хутка прыбегла яна на раздарожжа; скоранька, хапаючыся, стала капаць зямлю з-пад цёмнага высокага крыжа. Успухшая ад учарашняга дажджу зямля капалася лёгка. Усыпала Аўгінка зямлі тэй трошку ў бутэлечку; сабака забурчэў,— учуяў нешта ці некага.

Шыбка, як тады, калі ракі з бацькам лавіла, але без таго страху, кінулася Аўгінка дамоў. Ніхто ня чуў, як яна ціханька кручок цераз акно адшчапіла і ўвашла ў хату.

Усе сьпяць моцна, ніхто нічога ня ведае, што яна ўздумала рабіць.

Яшчэ з вечара прыбрала дзяўчына на печы, каб вадой якіх лахманоў не абліць.

Пастаяла яна ў раздуме хвіліну і чохнула ваду на печ. Сэрца як цэпам замалаціла, у вушшу зазьвінела, зашухала. Слухаець яна, ці многа галасоў заплача. Нічога ня чуваць, ніводзін не заплакаў. Чаму ніхто ня плакаў, Аўгінка аб тым не задумалася і пашла спаць.

Заплюшчыла яна вочы,—агні ля возера мігцяцца, кусты прыдарожныя, крыж той вялікі, чорны; рукі яшчэ тэй зямлёй сырой пахнуць. Зямля расьцець, пухнець, з рук сыпецца, сабака яе лапамі раскідае... Заснула Аўгінка.

Вясельле згулялі гучнае.

Сядзела Аўгінка за сталом ужо ў хаце маладога, сплаканая, вочы ад сьлёз пазапухалі; няпрыгожая стала. Але малады, чырвоны, як рак, так упіраўся ў яе п'яным поглядам, што аж душна рабілася ёй.

Яшчэ больш страшна стала маладой, як асталася сама-на сам з мужам. Уцякла бы, ды куды ўцячэш? З песьнямі, саромнымі прыпеўкамі прывялі сюды п'яныя бабы. Бо, кажуць, трэба так. Не з яе пачалося, ня ёй кончыцца.

А малады, вялікі, п'яны, з мутнымі вачамі, мокрымі вуснамі прыкляіўся да яе твару і сьціснуў яе, як кот мышыну, сваімі лапамі.

III

Чужая хата цяпер сваёй стала. Але ніяк ня можа прызвычаіцца Аўгінка да жыцьця на хутары. На сяле з людзьмі і за працай весела; заўсёды ёсьць з кім словам перакінуцца ці то ў полі, ці то ў гародзе.

А тут, на хутары, іх толькі трое: муж, сьвякрова ды сама Аўгінка. Была, праўда, яшчэ ў іх старая пастушка: брыдкая, дуракаватая дзеўка. Жыла яна ў Альшэўскіх гадоў з дванаццаць. Плаціць ёй нічога не плацілі, кармілі з горшага, ды абноскі давалі данашваць, атопкі датаптаваць. Яна і гусятніца, і сьвінятніца, і авечкі пасьвіла; узімку пер'е скубла, бульбу скабліла, прасьці пасабляла. На работу ніштo была, а ўжо разгаварыцца з ёй ні аб чым ня можна. Калі хто зачэпіць яе, дык як загагоча, пачне верзьці штось недарэчнае. Аўгінка, пагаманіўшы з ёй раз, старалася ніякай размовы з ёй не пачынаць і з няпрыемнасьцю слухала, як падражнівае і кпіць з дуракаватай дзеўкі старая гаспадыня.

Сьвякроў, ня гледзячы на свае шэсьцьдзесят год, была баба, як дуб, моцная, натуры суровай, хоць гутарку сваю любіла ласкавымі словамі пратыкаць. Да нявесткі: „галубачка, зязюлька, ясачка“, а на работу гоніць і гоніць,—перадыхнуць не даець. Аўгінка да работы змалку прызвычаілася, а тут яна прост цераз сілу рвецца.

Узімку адпачнула троху. Не дазваляе сам Ігнат рана будзіць маладуху. Любіць спаць з маладой жонкай, ня слухае матчынага бурчэньня, што прадзіва столечкі, а рукі бадай што адны ды адны.

Прыцягнулася вясна і к мужняй хаце. Усё часьцей і часьцей паглядае старая Альшэўская на маладую нявестку, раз-па-разу гамонку заводзіць, што на добры парадак ужо-б і аб люльцы думаць трэба, а, здаецца, нічога такога і ня чуваць і ня відаць. Чырванее Аўгінка.

Вось вясна ўжо адлятае. На гародах капаюцца, полюць бабы. Трэба ім да ладу ўсё давесьці, бо за касьбой, за жнівом не да гародаў будзе.

Палола буракі старая хутарыха цераз ляху побач з Аўгінкай ды гутаркай узьбілася на заборскіх баб, а з іх на бязьдзетуху Арыну.

Аўгінка ніжэй галаву да буракоў прыгнула, бо твар жарам абліўся. Зірнула на яе старая і невядома скуль неспадзяваная думка трапіла бабе ў галаву. Бурканула.

— Можа і ты ад тэй паскудніцы старой чаго навучылася, рэпінка мая салодзенькая?—абярнулася яна да нявесткі, пытлівым вокам углядаючыся ў твар тэй.—Няма на табе знаку ніякага, каб ты зацяжэла.

Ня ўмела маніць Аўгінка. Сорам, што пазнае сьвякроў нешта па яе твары, не даваў ёй падняць галавы.

— Прызнавайся, матчына дачушка, каб ты на месьце згніла, што ты зрабіла нешта?

Зашлася плачам маладзіца.

— Пашла ў хату! Там я ад цябе ўсяго даведаюся, ялаўка пеставаная!

Гукнула разьюшаная баба на сьледзства мужыка. Добрую лазьню далі яны Аўгінцы. Усё ад яе выведаўшы, пасьля доўгае нарады пастанавілі паслаць яе да споведзі. Няхай поп якую самую цяжкую кару на яе наложыць, толькі няхай памоліцца бацюшка добра, каб чары тыя з яе спалі.

Прыглушоная, з мутнай галавой, выправілася Аўгінка на другі дзень у споведзь, ды ня ў свой прыход, а ў чужы.

Ішла зялёнай вясёлай гаманлівай дарогай, удыхаючы й цёплы вецер, і косы раньняга сонца, і росны пах няскошаных яшчэ красак і старалася дайсьці да парадку: якая яе віна, за што яе зьняважалі, білі ўчора? Ці-ж яны пэўныя, што ад таго чараваньня ў яе дзяцей няма? Яна-ж казала ім, што ніводнага голасу плачу яна тады не пачула.

Скінула авечую скуру сьвякрова. Ніводнага слоўца людзкага ў яе не знашлося. А Ігнат той, аж зубамі скрыгаў, штурхаў сваю маладую жонку так, што вобземлю яна стукалася. Зьнязлавілі і ўвесь род яе, што ашуканствам замуж дачку за багатыроў выдалі.

— Кажу. табе, сыночак,—зьвягала разьюшаная баба,— кажу табе, бяз чараў тут не абышлося. Мусіць, яны табе зельля якога тады ў гарэлку падсыпалі, як у выгледзіны ты да іх езьдзіў. Смалой ліпнулі. Казала табе, сынок, ці з імі нам радніцца? За цябе-ж першая лепшая дзеўка пашла-б, ня тое, што гэтая сьвіньня непаросная, каб яе кішкі сабакі цягалі... Вон, вон з дому гэтую паскуду!

Але міла яшчэ было Ігнату маладое цела жонкі. Дай-ка які спосаб спрабаваць. Ці не дапаможа поп.

І вось ідзець і йдзець Аўгінка цераз бор ужо да таго папа. Як-жа ў сваё сяло йсьці? Як сваім людзям на вочы паказацца?

— Ах, што рабіць, што рабіць?

У бары ягады чырванеюць абапал дарогі. Ягадніц повен лес,—аж сосны гудуць ад гоману, сьмеху вясёлых песень.

Некалі яна першая ў вясёлым карагодзе дзяўчат-красак была.

Дзевятнаццаты год ёй, дзевятнаццаты толькі. Жаль і крыйду вялікую Аўгінка на бацькоў сваіх адчула, што завязалі маладосьць яе замужжам. Праўду-ж сіпела зьмяя-сьвякруха, што з радасьцю яе з хаты на багаты хутар выпіралі.

Вутраня ўжо кончылася, як прышла Аўгінка ў царкву. Народу там—усіх пальцаў на руках не загнеш, лічыўшы: з пяток баб ды з пару мужчын.

Рада Аўгінка, што ніхто яе тут ня знае. Апрача яе станавіліся да споведзі дзед нейкі стары ды маладзіца адна цяжарная. Перад сабой іх пусьціла Аўгінка. А самой ёй страшна, ой як страшна.

Чырвоная, з тахаючым сэрцам апынулася яна вочы ў вочы з папом пад нейкай пеляной. Поп не сьпяшаючыся разглядаў яе, наколькі можна было разгледзіць пад пакрышкай. Ня йдуць словы на вусны Аўгінкі, няпрыемна ад погляду мужчынскіх вачэй.

— Замужняя ці дзяўчына?—распачаў споведзь поп, скубаючы сябе аднэй рукой зьлёгку за бараду.

— Замужняя,—прашапацела маладзіца.

Поп паправіўся ўсім тулавам, нахіліўся бліжэй да Аўгінкі, толькі што не ўзваліўся на яе.

— Чым-жа ты вінаватая, маладзіца? Мусіць, свайго мужыка табе мала? З другімі гуляеш?

Саромеецца Аўгінка ад гэткіх пытаньняў. Раней яна зазвычай хадзіла да споведзі толькі ў вялікі пост. Тады папу няма часу для даўгіх гамонак. Як снапамі, кідаецца бабамі поп. А сягоньня гэты чужы поп, мусіць, доўга будзе ў яе распытвацца. Тое няпрыемнае пачуцьцё, якое ахапіла адразу Аўгінку, калі апынулася пад пеляной, павялічылася. Але страх прапаў. Проста не хацелася расказваць чужому чалавеку сваю таямніцу. Аднак, перамаглася і прыглушоным голасам сказала.

— Як дзеўкай была, чаравала, каб дзяцей ня было. Вось і нямашака ў мяне дзяцей.

— Но-о-о! Чаравала, каб дзяцей ня было?—зьдзівіўся поп.—Грэх, вялікі грэх! Такія круглыя сабе выгадавала...—і ўсёй пяцярнёй сьціснуў Аўгінку за грудзі.

Агіда і гнеў рванулі яе рукамі пеляну і, нічога ня чуючы, нікога ня бачачы, пашла Аўгінка цераз царкву к выхаду.

А поп з неспадзяванкі запутаўся ў пеляне і, пакуль скідаў яе з галавы, меў часу прыйсьці да сябе.

— За чараваньне бясоўскае не магу адпусьціць табе грэху!—крыкнуў ён пярэрвістым голасам уздагон Аўгінцы.

Данясьліся гэтыя словы да вушэй маладзіцы, але не да яе розуму. Ды падхапілі іх бабскія вушы, і сталі бабы паміж сябе здагадкі рабіць, адкуль тая маладзіца, за які такі грэх бацюшка на яе сварыўся? Нашлася адна, дачка каторай замужам была ў Забор'і,—пазнала яна Аўгінку і вырашыла сягоньня дачкі даведацца і дазнацца, што тут і як...

А Аўгінка тымчасам ішла і йшла назад ранейшай дарогай. Дзе цяпер яе двор, яна ўжо сама ня ведала. Нікуды не хацелася: ні ў мужыкоў двор, ні ў бацькоў. Бацькоў дык і сорамна было. Трэба будзе ім усё расказваць і пра споведзь...

— Ох, гора маё, горачка!—ламанула пальцы Аўгінка.— Куды мне йсьці?

Калі мінула бор, несьвядома збочыла з дарогі ў жыта. Асьцярожна, каб не паламаць, расхіляла каласы і вышла на невялічкую лугавінку, з усіх бакоў закрытую жытам.

І тут, пэўная ў сваёй адзіноце, троху супакоілася.

— Пайду на хутар,—думала,—раскажу ім, як мяне поп спавядаў, павінюся перад імі. Калі ня будуць мяне дужа есьці, застануся пры іх, а не, дык да бацькоў вярнуся. А будзе бацька біцца, матка праклінацца, выберу дакумант і ў горад паеду.

Сонца пякло і гнала сон на яе змучаную галаву. Напусьціўшы хустку нізка на вочы, падлажыла яна руку пад галаву і заснула, здрыгаючыся і хапаючыся ўва сьне.

Плёткі хутка расходзяцца па вясковых ваколіцах. У гэты дзень пад вечар усе бабы ў Забор'і, як у бубен білі пра Аўгініну споведзь,—жарты, поп з царквы прагнаў, да споведзі не дапусьціў за чары нейкія.

Тая свацьця, што навіну ў Забор'е прынясла, да Васілёвых сама не паказалася, але ня менш як пяць баб зашлося да Васіліхі—ні то навіной пацешыць, ні то больш чаго даведацца.

Назаўтрае сабралася Васіліха на хутар да дачкі ў адведкі. Цэлую ноч грызлася старая, але нічога толкам уцяміць не магла, што плявузгаюць бабы. Што нездарма пагалоска пашла—ведала.

У Аўгінкі ўсё-ж не хапіла адвагі і жаданьня прызнацца мужыку і сьвякрове, што яна не захацела да канца выспавядацца.

— Была ў споведзі?—першая зачапіла яе сьвякроў.

— Была.

— Ну, што бацюшка сказаў?

— Нічога.

— Як нічога! Брэшаш ты. Ці адпусьціў твой грэх?

— Ня ведаю.

— У, гадзіна балотная, каб ты так долю сваю ведала. Кажы ўсю праўду, мухаморына ты чырвоная!

Але Аўгінка ні слоўца больш ня выпусьціла, нават на мужнія запытаньні.

Каб ня жніво скора, падгаварыла-б старая хутарыха сына прагнаць Аўгіню. Ды разьлічыла, што, на ліха, Аўгінка за дзьве жняі наемных нажнець; а плата ёй будзе цяпер добрая: даволі ласкавых слоўцаў назапасіла для яе сьвякрова, добра імі накорміць, аж у роце горка стане маладусе.

Яшчэ сьнедаць не садзіліся, як уашла ў хутарскую хату заборская свацьця, Аўгінкіна матка, Ігнатава цешча.

Ня кінулася, як раней бывала, дачка на прывітаньне, бурканула нешта пад нос старая Альшэўская, маўчаў зяць.

Ня вытрымала Васіліха, каб хоць дзеля прылікі аб чым запытацца, а адразу зьвярнулася да дачкі.

— Аўгіньня, што тут у вас вышла? Чаго ты ў споведзь хадзіла?

— Ня ведаеш, свацьцечка! Ня ведаеце, як у вашай вёсцы дзеўкі чаруюць, каб замуж багатыя бралі ды каб дзяцей у іх ня было? Ня ведаеш, дык у дачушкі сваёй, пястушкі, запытайся!—выпусьціла свае кіпцюры старая.

— А нічогачка я ня ведаю, вось горачка яшчэ на галаву маю накасалася. Учора бабы ў Забор'і языкамі званілі, што прагнаў поп Аўгіньню ад споведзі, а вы тут нешта пра чараваньне нейкае...

Не дала госьці дагаварыць старая хутарыха. Выскачыла на хату і засыпала ўсіх гняўлівымі словамі і рухамі.

— Дык цябе, нястыдніца, і поп ня прыняў. Дык і ад бога адпусты табе няма!—кідалася ў бок Аўгінкі, усё вышэй і вышэй падносячы голас, сьвякроў.

— Дзякую, дзякуй, сваццейка, што дачушку добра навучылі, як белы хлеб есьці, а роду-племя ня весьці. Выгадавалі лялінку, як малінку, ежце яе самі—хочаце варыце, хочаце гнаіце,—прысядала старая ў бок Васіліхі.

— Досыць, матка!—грымнуў кулаком аб стол з цэлай сілы Альшэўскі.—Ад крыку ляпей ня зробіцца. Садзіцеся, сваццця. Будзем суд судзіць, дзела гаварыць, як далей цяпер будзе.

І калі прыбітая крыкам сваццця прыхінулася з краю лавы, гаспадар, вострым вокам гледзячы на жонку, сказаў:

— Слухайце, сваццця, і ты, Аўгіньня. Калі я сватаў яе, дык самі ведаеце, што не за багацьце яе браў. Відзеў, дзеўка здаровая, да работы ладная, думаў сям'ю завясьці, усё вам бяз усякага падману сказаў. А вы што зрабілі? Падвучылі дачку з вадой на печцы чараваць, каб дзяцей яна ня мела. І навошта так рабілі, навошта нас ашукалі? Усё роўна ўсё віду выплыла. Цяпер нашы пірагі чарней за хлеб з мякінай Аўгіньні здадуцца. Ці мы яе жалець будзем?

— Што ты рабіла, Аўгіньня?—ухапілася маці за дачку.— Хто? Арына цябе навучыла?

— Ай мама, мама!—загаласіла Аўгінка.—Прасіла, маліла я цябе, не аддавай мяне за яго замуж. Баялася я дзяцей, ды зрабіла так, як некалі табе Арына казала; пашла ўначы пад крыж, зямлі дастала, з вадой зьмяшала, на печ лінула тую ваду. Ніхто аб тым ня ведаў, ня знаў аб тым, пакуль вочы каршуніхі гэтай у сэрца маё ня ўлезьлі!..

— Я табе каршуніха, зараза ты! Вон з нашага двара, жабрацкі вырадак! Гані іх, Ігнат, каб і духу іхняга тут не вялося!..

Слова па слову пачала адгукацца і Васіліха, і пачалася такая грымучая бабская сварка,—як толькі вушы ім служылі.

Ізноў умяшаўся Ігнат і судзіў Саламонавым судам.

— Ідзіце вы абедзьве пакуль што на сваё сяло. А мы з маткай тымчасам абмяркуем, што і як далей будзе. Сягоньня толькі дарма калаціцца будзем.

Бацька ў дварэ кінуўся быў біць Аўгінку, як даведаўся пра тое ліха, ды стрымаўся. Не яго цяпер воля вучыць, хай мужык камандуе ёй, як хоча.

— Ат, бабы, вядома. Усё ў вас падурному. Та-та, та-ла-ла... Пайду па каня ў поле. Паедзеш са мной на хутар. Прымець, куды дзенецца.

— Не паеду я. Самі яны сказалі ня ехаць, пакуль не накажуць,—запярэчыла Аўгінка.

— Як знаеш, дачушка. Толькі памятуй тое, калі ты ў мужняй хаце не патрэбна, дык і тут табе ня месца. Хоць у ваданоскі йдзі, а хаты маёй не паскудзь!

І вышла так, што ня стала двара ў Аўгінкі. Адвёз наёмны чалавек на кані Альшэўскіх пасаг Аўгінкін—скрыню. І карова адзаду прывязаная ішла. За сьвіньню ды авечку грашамі, казалі, сплоцяць.

Справілася старая Альшэўская пераканаць сына, што не пашто варочаць назад нявестку, трэба расьпісацца ды другую, лепшую, багацейшую, браць ды не марудзіць, бо вось-вось жыта пасьпее, а жаць каму?

Разумная ўсё-ж была старая. Сьцяміла, што ўзбунтавалася Аўгінка, што вяровак з яе больш ня віць. Хто-б падумаў, што яна такая ўпартая ды ў сабе ўкрытая?

І бацька Аўгінін слова сваё зьдзержыў. За тую зьнявагу, што цераз дачку пала на ўвесь род яго, ня даў ён маладзіцы месца ў сваёй хаце.

— Бяры сабе, дачушка, сваю кароўку, сваю скрынку і йдзі да каго хоця, а я грэху пакрываць ня буду.

Пашла Аўгінка да ўдовай цёткі пажыць, пакуль справы свае скончыць, калі ў горад ехаць можна будзе: з мужам расьпішацца, дакумант выбера, карову прадасьць.

Прыняла яе цётка добра, але цяжка ёй жывецца. Ходзіць атуканая. Ад бацькоў сама хаваецца. На вуліцы бабы горш, як сабакі, словамі кусаюцца, дзеўкі адварачваюцца, пасьміхаюцца. Хлопцы, а то й мужчыны прайсьці, ступнуць не даюць.

Аднаго дзяцюка, які схапіў яе за грудзі, пытаючыся: „за каторую поп дзяржаўся?“ яна на ўсю сілу трэснула качалкай па руках, бо ў той час таўкла бульбу ў чыгуну.

Зазлаваўся той, самымі агідными словамі злаяў яе і пагражаўся яшчэ:

— Пажджы, пажджы, ялавіца. Выганім мы табе тваю фанабэрыю. Зловім дзе-небудзь.

Параіла ёй цётка:

— Гнаць я цябе не ганю. Дачок я ня маю, сыны ня жэняцца, дык ты ў самую пару-б мне ў хаце прышлася. Але тут ты сама ня выжывеш, загрызуць. У горад табе бяз грошы нечага ехаць, прадаць карову трэба. Пажджом кірмашу, можа цану возьмем. А ты цяпер сунься паціху на лінію. Казалі, палатно там (багавіца яго ведае, якое палатно) перасьцілаюць, дык дзеўкі пясок падносяць. Дамы там, кажуць, будуць,— знойдзецца і табе там занятак. Дзеўкі, якія там ходзяць, скора на жніво кінуцца, а табе, чым чужое жаць, лепш за якую другую работу ўзяцца. Устань заўтра ранютка ды йдзі туды даведацца. Вёрст можа пятнаццаць будзе адсюль, але ці-ж гэта маладым нагам далёкі сьвет?!

IV

Вось ужо некалькі дзён, як працуе Аўгінка на чыгунцы. На работу яе з ахвотай узялі, бо ў часе жніва падзёньніцы ня густа зьбіраюцца.

Падносіць Аўгінка на насілках пясок і вапну муляру, які ў вялікай яме разводзіць замазку, каб было чым зьвязаць цэглу.

Як убачыў Аўгінку, сьвіснуў, ляснуў сябе па бакох абедзьвюма рукамі:

— Во, гэта дык дзеўка! Ай дзеўка! І ў якім гэта лесе такая маліна вырасла? Каб хоць троху пакаштаваць, ці салодка?

Ссунула бровы маладзіца. Усюды адно. Яна няпрыветна зірнула прост у вочы муляру і, падціснуўшы вусны, адказала, укладаючы асаблівую гаркату ў свае словы:

— Каштавалі ўжо, ды кісла дужа маліна тая, адракліся.
Глянуў той на маладзіцу і змоўк пакуль што.

Паднасіла Аўгінка цэглу ў пары з старой кабецінай: худая тая, рукі ў сініх вузлох, спрацаваныя, счарнела, як порхаўка, але бадзёрая, языкастая, табаку курыць. Курэньне гэта вельмі дзівіла Аўгінку, бо першы раз ёй давялося бачыць, як курыць баба ды яшчэ старая.

Усё-ж Аўгінка адчула нейкую прыхільнасьць да старой работніцы і ўвечары расказала ёй тое-сёе аб сваім жыцьці.

Старая пацяшала яе:

— Ат, кінь, не маркоцься дарма. Цяпер толькі ты і жыцьцё ўбачыш, як сама сабой камандаваць пачнеш. Каб ты на маё жыцьцё аглянулася, столькі-б ліха ўбачыла, што й на ўсю сьцяну ня сьпішаш. А жыву вось і паміраць не хачу. А мужчыны, што чэпяцца, дык гэта бяда невялікая. Калі ў цябе да іх ахвоты ня будзе, дык пакруціцца каторы, пакруціцца і адчэпіцца.

Падносіць Аўгінка цэглу муляру. Дужая яна, маладая, ані гнецца пад цяжкай ношкай. Падабаецца яна муляру, чапае яе, ды ня любіць яна жартаў. Стаў муляр, як чалавек з чалавекам, з ёй гаварыць. Патроху адпускалася сэрца маладзіцы.

Раз увечары, як прышоў муляр пасядзець пад жаночую казарму, расказала Аўгінка яму і старой сяброўцы сваёй усё жыцьцё сваё, усе думкі свае цяжкія. Пыталася, за што яе доля гэткая? Маладая,—ані дзеўка, ні баба. Няма ў яе кутка свайго. Нялюбы быў муж, дый той прагнаў яе, родныя бацькі адракліся. І ўсё за грэх той. Але як-жа гэта можа быць? Няўжо-ж папу таму ад бога сапраўды воля дадзена грахі разьвязваць?

— Хто яму волю даў, папу даў? Ды ён-жа толькі такімі, як ты ды маці твая, такімі бабамі дурнымі дзержыцца. Цябе маці такой выгадавала, і ты, каб у цябе дзіця ад мужа таго нялюбага нарадзілася, каб не прагнаў ён цябе, ты-б лоб свой з радасьці-б паклонамі зьбіла, папу поўгаспадаркі-б занясла. І дзіця-б сваё, у бога вымаленае, у дураце-б гадавала. Ох, і ня люба мне, што такая маладая, здаровая ня жыве, а скрыпае і стогне: бог пакараў, мужык прагнаў...—горача, абурана накінуўся муляр на Аўгінку.

— Стой, стой! ты не сварыся так дарма,—ухапілася за яго руку Аўгінка. Ты падумай, што столькі часу я стараюся

думкамі да праўды дайсьці, па ўсіх дарогах кідаюся. Хто-ж мяне пажалеў, бацькі, як бульбіну гнілую, вон выкінулі. Адна цётка толькі...—усё яшчэ трымалася за муляраву руку маладзіца.

Паціху так, што Аўгінка ў сваім запале і не заўважыла, падблізіў яе муляр да сябе. З адразу прасьвятлеўшым поглядам, мяккім голасам сказаў ён:

— Ну, хочаш, я цябе пажалею, хочаш? Хочаш, каб у нас дзіця закугакала?

І рванулася Аўгінка, уцякла ў казарму.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Толькі перад самай масьлянкай справіўся згуляць другое вясельле Альшэўскі. Поўсьвету зьезьдзіў, пакуль сабе новую жонку выезьдзіў. Ня ручыла яму. То яму дзеўкі да спадобы ня прыходзяцца, то самі за яго йсьці ня хочуць. Стар. Беднейшая і маладзенькая можа з бацькаўскага прымусу і пашла-б. Ды цяпер па бедных дварох ня езьдзіць хутарэц. Маткі паслухаўся-ткі.

Нарэшце, запілі дзеўку, далёка, вёрст пятнаццаць, аж на зьмітраўскіх хутарох. Дзеўка здаровая, чырвоная, маладая, толькі нейкая такая няўломная і, як зводзілі на яе старой хутарысе бабы, „ня ўмее яна з людзьмі абрасьціцца“.

— Нічога,—казала старая.—Нам гэтыя абыходы ня дужа патрэбны. Была ў нас круткая, дык скора скруцілася. Нам абы работу падняць сілу мела, у двор-бы што прынясла ды дзяцей-бы добрых вадзіла.

Гуляюць у нявесьціным двары вясельле.

Сядзіць Ігнат за сталом побач з маладой. Глядзіць на яе, дзівіцца ды ня так, як некалі на Аўгіньню.

Госьці, як госьці, а сама маладая есьць і п‘ець за ўсіх. Ня так п‘ець, як есьць. Мяса аб‘есьць, аб‘есьць, косткі на хату прост на людзей, цераз стол—швыргель. Наелася, выцерлася абрусам, бо аж пот з ілба капаў, дый расьпеmазалася. Дзягу матцы кінула.

— На, мама, дзягу. Наелася дык наелася, аж бруха расьпёрлася.

Слухае Ігнат і чуе, як перасьмяваюцца госьці. „Горка“, крычаць, „горка“, а яму сапраўды горка і не саладзееець.

Згледзела тут хросная матка маладой, што крывіцца жаніх. П'яная была ужо ўдостач. Падлажыла і яна мёду.

— Слухай, Ігнаська! а, Ігнаська! Мы-ж цяпер з табой з усіх бакоў радня. Вун хрэсьніца мая поплеч цябе сядзіць, і тая першая твая Аўгіньня мне свая цяпер. За Міронам яна, за пляменьнікам маім зайшоўшы. Прывазіў ён яе ў свой двор паказаць. Ён мулярам ходзіць. Нішто, нішто і тая, ягадка ладная. Мірон дык аж, здаецца, на дыбкі паднімаецца, што такую маладуху падхапіў. Вясёлая такая яна, гамоніць і гамоніць; тоўста ўжо тады была, ці не ародзіць к Вялікадню... Няладна толькі, што невянчаныя жывуць.

І, зьнізіўшы голас да ўсім чутнага поўшэпту, сказала Ігнату:

— Глядзі, зяцёк, каб не з тваёй прычыны дзяцей у цябе ня было. Глядзі! Вун мы яшчэ якую дзеўку табе здаравяку аддаём. Паглядзім, паглядзім, ці будзе з цябе толк.

Паківала яму пальцам і ўдарыла п'яным сьмехам па ўсёй хаце.

Пахмуры, зусім ацьверазеўшы ад цяжкіх дум павёз Ігнат багатую жонку ў свой багаты двор.

**А. Александровіч**

# Дзьвіна!

*(Адрыўкі)*

* * *

Добры дзень, стазвонныя загоны-дываны,
я прышоў паслухаць з вамі гутарку Дзьвіны.

Сакалінай пераліўнай прывітала песьняй даль,
плынь бурлівых, цёмна-сініх векапомных хваль.
Залаціцца-весяліцца звонкаструнная вясна...
Добры дзень вам, палачане! Добры дзень, Дзьвіна!

* * *

Раніца... ціша... Сонца калыша,
радасьць юнацкую з сіняга ўзвышша.
Шэлест гульлівы, шэлест вясеньні
ветрыкам ловіць мае лятуценьні.

Успомню дзяўчыну, сумна мне стане—
думкі зьвіваю ў вянок каханьня.
Звонкае поле... Зялёныя сьцежкі
Сэрца ўзбудзілі квяцістай усьмешкай...

* * *

Шустры ветрык жартаўліва
у кустох зашалясьціць.
Гоман хваль Дзьвіны бурлівай
чую першы раз ў жыцьці.

Мілагучныя вясьнянкі
ў сэрцы туляцца ў мяне.
Ля ўзьбярэжжа палачанкі
песьняй шлюць паклон вясьне.

Радасьць полымем шугае,
ў полі песьнямі гарыць.
Хвалі звонкія змываюць
бераг замкавай гары.

Плыньню шустраю, свабоднай
ціха коцяцца чаўны.
Прывітаў я песьняй роднай
бацькаўшчыну Скарыны.

Роснаю раніцай
сонца румяніцца,
нібы дзяўчына,
плача каліна...

Птушкі-вясьнянкі
пяюць спазаранку
ў сасоньніку,
як на гармоніку...

* * *

Жыцьцю маладому вясной не астыць,
ня спыніць яго песьні стазвонная!
З песьнямі гучнымі гоняць плыты,
мінаючы горы, лясы, балаты,
гоняць Дзьвіною—плытагоны...

Забаўна плывуць за плытамі чаўны,
хістаюцца ў золаце хваляў.
Любыя песьні Заходняй Дзьвіны
ў сонечнай радасьці звонкай вясны,
чаму спавілі мяне жалем?

Жудасна... крыўдна... яшчэ вярста—
і гоман прывольля зьнікае.
Там сьлёзы нядолі ліе бедната,
пазбаўлена ў роднае хатцы кута—
мовы роднае іх пазбаўляюць!

Сьцюдзёным туманам на сэрцы іржа
балюча атручвае радасьць.
Дротам калючым сьціскае мяжа,
а за мяжой кайданы бражджаць—
кучаравыя ссохлі прысады...

Янка Бобрык

# Засьпявай мне песьню...

Засьпявай мне песьню, засьпявай ты, вецер;
захвалюйся, рэчка, зашумі, трысьцё!
Можа мая радасьць са сьлязьмі заўецца
і крышталь бяроза сабярэ ў крысо.

Бо сягоньня гора, ну, а заўтра—шчасьце:
бо сягоньня сьлёзы, ну, а заўтра—сьмех.
Раніцой выходзіў на дарогу часта...
Я душу, ня камень—як другія—меў.

Ах, мой лес вясёлы, лес мой задумёны;
верасы, нізіны... і сасна і пель *).
Сабяру брусьніцы з купінак у жменю,
падару дзяўчыне за мінорны сьпеў.

Пацалуе месяц хвалі на крыніцы,
і акропіць срэбрам поле і сяло.
Павіліся сьцежкі, павіліся ніцы,
як на сэрцы ў суме ўецца весялосьць.

Бо сягоньня гора, ну, а заўтра—шчасьце;
бо сягоньня сьлёзы, ну, а заўтра—сьмех.
Раніцой выходзіў на дарогу часта...
Я душу, ня камень—як другія—меў.

20—VI—26 г.

---

*) Пель—круглая балоцістая мясьціна на пяшчанай глебе.

**Валеры Маракоў**

* * *

Пеў пякучыя песьні свае салавей,
    Кучаравая ліпа драмала;
На прасторы палёў і жытнёвых завей,
Там, дзе песьня да шчасьця і волі заве,
    Маладая дзяўчына сьпявала.

Слухаў я і ў грудзёх нявытрымным агнём
    Ўзварухнулася сэрца струною.
Захацелася шчасьця й каханьня ізноў,
Каб у гэтым прасторы сівых ячмянёў
    Патануць ў цішыню з галавою.

Хай тады яна прыдзе і скажа—кахай
    Маладую дзяўчыну прывольля.
Будзе песьні нам пець зачараваны гай,
Будзе слухаць іх месяц і радасны край,
    А мы будзем кахацца на полі!

Ї рукой белай, белай, як лебедзь, рукой
    Абнімаць мяне ў шчырасьці будзе.
Хай тады белы месяц над сіняй ракой
Упадзе на ваду залатым васільком,—
    Ён запал нашых сноў не астудзіць!

Хай тады усю ноч, ўсё жыцьцё салавей
    Свае песьні пяе па-над намі.
На прасторы палёў і жытнёвых завей,
Там, дзе песьня да шчасьця і волі заве,
    Ўсё жыцьцё—залатое сьвітаньне!..

Чэрвень 1926 г.

**Л. Юркевіч**

# У сьпевах замеці

*(Апавяданьне)*

Беліць коўдры зіма... Трашчаць крыкуны-марозы... Гойсае вецер па лагчынах, зьвініць у лясох, па абшарах, імчыцца рэхам... Сьнег кладзецца мяккім пухам—нячутна, нясьмела. Белыя палотны яго на палёх дышуць холадам. І рагочуць на ветры сьняжынкі, цалуюцца між сабой, ад пацалункаў таюць і мокрымі ляцяць на зямлю. Навакол—бела, роўна... Толькі мільгаюць здалёку аганькі. Адзін... другі...

Успыхне—і няма... Успыхне—і няма...

Можа гэта—вочы воўка, што на поле вышаў паслухаць сьпеваў замеці?

Можа—хто запалку чыркнуў на дарозе? Дык дарогі-ж няма... і ня йдзе ніхто...

Толькі вецер бушуе, спрачаецца,—нібы задзьмухаць агні хоча. Ды не ўдаецца шалёнаму!—Гараць...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хутарок Кузьмы Старажыцкага—ня з дрэнных... І зямелькі хапае, і хата—нішто сабе, і, нават, лес свой. Толькі месца яго—ня добрае... Суседа бліжэй, як за чатыры вярсты, ня ўбачыш... А навкол—лясы, балотцы замерзшыя, пералескі...

Прытуліўся хутар, як злодзей які, да лесу і шлюбуецца з начамі, цемрай сечанымі...

У „гасьціным“ пакоі зараз нейкая млявасьць. Шырокая ляжанка пыша жарам. Сухія, бярозавыя паленьні льлюць хвалямі прамяністае цяпло...

Каля сьцен—канапкі жоўтага дрэва, пярэдні кут пад кружоўнай занавескай. Перад ляжанкай „сама“ Лукер'я з дачкой Малашкай.

Сядзяць, размаўляюць. „Самаго“ Кузьмы, гаспадара—быўшага ўрадніка—няма. А дзе ён зараз—аб гэтым ведае пакуль што адна гаспадыня.

За вакном гудзіць, злуецца непагадзь... Рассыпаецца сьнягамі сінімі, у коміне заліваецца злосным сьмехам. Шуршыць па бярвеньнях...

— Дык вось, Машка, гаротніца ты мая... Няма на іх, акаянных, пагібелі... Ці так-ба мы з табой раней жылі-б?.. Вось і цяпер... Бацька зноў пайшоў...

— Зноў? Куды, мама, а? Куды ён?..

— К Аўсею... бондару... Кожны вечар у яго ён...

— І Грышка з ім?

— І Грышка...

Дровы ў ляжанцы пачалі дагараць. Полымя лямпы мігала з-пад чырвонага чэхліка. Ад гэтага сьнег пад вокнамі пачаў яскравіцца, пераліваццa крывавымі брызгамі...

— Ма-а-амка!.. Я баюся... Гукні тату!.. Нехта ў коміне смурыжыцца... Стра-ашна!..

— Ці-шшш... ня плач!..

З далёку аддалося рэха, нібы ад гуку стрэлу... Шыбы зазьвінелі... І як-бы ў адказ з двара пачулася тонкае, жудаснае выцьцё сабакі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Бура сьціхала... Міліцыянэр Забатаў падняўся з-за столу лясьніковай старожкі, куды ён зьвярнуў абагрэцца.

— Ну, дзякуй вам, Антонаўна!—прагаварыў ён,—абагрэлі чалавека. А то-б зусім акачарыжыўся...

— Куды-ж цяпер, Ігнат? Няўжо к Старажыцкаму гэтаму?.. У такое надвор'е... Мароз... Ды прападзі ён! Лажыўся-б ты да заўтрага, а там-ба паглядзеў...

— Не, не, цётка! Не з такіх я... Раз пачаў, сказаў слова, дык ня кіну! На тое і міліцыянэр... Людзі не дарма гаварылі. Дый надвор'е самае добрае для самагоншчыкаў...

Забатаў зацягнуўся крапчэй рэмнем, падправіў рэвольвэр і расчыніў аббітую саломай дзьвер.

Ноч, сапраўды, была прыгожая. Ветру ўжо амаль ня было. Разарваныя ласкуцьці хмарак ціха плылі над зямлёй. Часам з-пад іх сінела глыбокае, празрыстае неба з ружовымі золкамі... Паветра—нібы самое ўваходзіла ў грудзі. Здавалася, што п'еш ледзяную ваду, а яна цячэ бязупынна тонкім ручайком.

Месіка ня было відна і вакол, у дзьвюх вярстох, мільгалі толькі Глушэцкія агні.

— Дык бывайце, Антонаўна! Я пайшоў...

І Забатаў вышаў з хаты лясьніка.

„Закурыць-ба!“ пранеслася думка, „а то-ж яшчэ дзьве вярсты з гакам!..“

Забатаў ішоў... У галаве стаялі ўспаміны аб родных, сібірскіх малюнках, дзе засталася з 17-га году яго сям‘я... Сібір—далёкая, для многіх—страшэнная, куды калісьці ссылалі на катаргу... Там шуміць таемным шумам векавая тайга, разьлягаецца блакіт вазёр, дымяцца на ўсходзе раніцай манжурскія сопкі...

Завіхурыла жыцьцё Забатава. Кінула ў Маскву—крэмлёўскім вартаўнікам, праз Калускія лясныя заставы прымусіла міліцыянэрам служыць у глухой Беларусі...

— Стой! Дзе-ж гэта я?.. Вось забраўся!

За думкамі і ня прымеціў Забатаў, як зьвярнуў са сьцежкі і мерыў крокамі нейкі лясок з рэдкімі, маларослымі дрэвамі.

— Што за чорт?.. Здаецца, і ня быў тут ніколі... А гэты будынак адкуль?..

Кроках у дваццацёх, управа, чарнела ня то лазьня, ня то старое, напалову разаронае гумно. Можа-б на яго і не зьвярнуў увагі міліцыянэр, але ён заўважыў між бярвеньняў палоску чырванеючага сьвету. Падышоўшы бліжэй, можна было разглядзець і жасьцяную трубу, з якой валіў густы, белы дым...

— А-а-а!.. Гэта значыцца—у самую точку!..

Сэрца Забатава забілася хуценька-хуценька... Ён выняў з кобуры наган, сьціснуў яго ў руцэ. Кашлянуў разы два і, чуць знашоўшы ў цемнаце дзьверы, стукнуў...

Потым—яшчэ...

Чырвоная стужка між бярвеньняў разам згінула. Забатаў з усіх сіл садануў па дзьвярох ботам. Дошка рыпнула ў апошні раз і зламалася.

— А ну, хто тутака ёсьць, вылязай!—крыкнуў Ігнат і чуць утрымаўся на нагах.

З цемры на яго дзьмухнуў моцны пах брагі, едкі і п‘яны. Пацягнула характарным хлебным духам, духам распаранага збожжа.

Забатаў шагнуў уперад... Потым з цёмнага куту, з-за бочкі соладу, мільганула вострае, агнявое... Грукнула нешта на марозе... Громка, адрывіста... Перад Забатавым паплылі чырвоныя, сінія, зялёныя кругі... І, ужо лежачы на земляной падлозе гумна, ён убачыў сябе зноў у родным Амурскім краі. Толькі сосны разьвесістыя, звонкія на гэты раз зашумелі асабліва выразна, а макушкамі з пагрозай заківалі яму. Далей усё зьмяшалась, і ў галаве Ігната зацымбаліла чорная, сьляпая цішыня...

— Ну, хлопцы, скончана!—у поўголаса сказаў Кузьма.—Бяжы, Грышка, да маткі і скажы, што на сёньня—вядроў дваццаць будзе... Аб гэтым—ні гу-гу! Чуў? Я сам ёй...

— Аўсей! Бяры-ка за ногі... Вынесем ды ў Жаперын аўраг... Разумееш? І шыта-крыта...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Беліць коўдры зіма... Трашчаць крыкуны-марозы... Трашчыць часам жыцьцё людзкое... Хвалюець, спрачаецца... І толькі вецер буяны гойсае па лагчынах, разносіць палём напевы аб вясковых радасьцях, пакутах, аб драмах вясковага жыцьця.

Бела... Роўна... Халодна...

**А. Звонак**

# Берагам зялёным

Берагам зялёным
Трысьнікі кудравыя,
Трысьнікі кудравыя
Над ракой шумяць...
Ці то сэрца ўпоена,
Ап‘янела травамі,
Ці то ў сэрцы моладасьць,
А ў душы вясна.

За ракой,
За рэчкаю
Лясы чорнабровыя...
Там лясы
Ды цёмныя,
Там бязьмежжа—шыр...
Калі радасьць плешчацца—
Ня высееш словамі,
Калі сум закрадзецца—
Ня сьцішыць
Душы...

Берагам
За рэчкаю
Далі
Далі з ветрамі,
Ветрамі асьвежаны
Далі
І
Жыцьцё.
Над палямі ціхімі
Днямі,
Днямі сьветлымі,
Над палямі сумнымі
Ўскаланем жыцьцё...

Край мой, край
Радзімы мой,
Лес і гай бярозавы
Сумнае мінулае
Ветры разьнясуць.
Ў нашы дні адважныя,
Ў дні мяцежна-грозныя—
Веру,
Веру шчыра я—
Не агорне сум.

Бо па-над краінаю
Зоры разгарэліся
І ў туманах ўспыхваюць
Водблескі жыцьця...
Бо ня быць-жа ў чэрвені
Сьнежнявай мяцеліцы,
Калі дні ў пярэстасьці
Новым шалясьцяць...

Вось чаму так хочацца
Абнімацца з ветрамі,
Слухаць,
Як цалуецца
З ветрамі лісьцё...
А ў блакітным захадзе
Водблескамі сьветлымі,
Водблескамі сьветлымі
Ўспыхвае
Жыцьцё...

Полацак, 1926 г.

# Вершы А. Гурло

* * *

Заблішчалі агністыя зоры
Ї спляліся ў прыгожы вянок.
Нешта сад мне шуміць і гаворыць.
Ветравыя чутны пераборы.
Пах вячэрні п'яніць, як віно.
Заблішчалі агністыя зоры.

Углядаюцца ў цемь мае вочы,
Распазнаць хочуць даль-далячынь.
У грудзёх маіх сэрца рагоча.
Нейкі шлях разаслаўся прарочa.
Недзе бразгаюць шчасьця ключы.
Углядаюцца ў цем мае вочы.

Сон ня морыць. Ї лёгка, так лёгка
Ўсёй істоце маёй і душы,
Што аж песьня пранеслася звонка
У прастор паднябесна-высокі,
Каб прарэзаць пялёнку цішы.
Сон ня морыць. Ї лёгка, мне, лёгка...

* * *

Сонца закручвае косы,
Сонца хаваецца ў сінь.
Хутка ўжо прыдзе восень
З крыкам адлётных гусынь.

Хутка асыплюцца лісьця,
І пазалотай адзенуць дол,
А вецер, а вецер з сьвістам
Будзе гуляць навакол.

Выйду тады я ў поле,
На аголены гляну гай.
Зноў закіпіць сваявольлем
Ў сэрцы маім туга.

Зноў мне захочацца глянуць
Ў даль непражытых дзён,
Зноў з незагоеных ранаў
Кроў будзе піць авадзён.

Зноў захачу я забыцца,
Захачу, можа, нават, заснуць,
Покуль жыцьцё забруіцца,
Покуль спаткаю вясну.

1926 г.

# Вершы Б. Казлова

### Помню вечар

Помню вечар вясной,
Як за чашай з табой
Мы на прызьбе ўдваёчку сядзелі.
За вішнёвым садком
Там у пушчы густой
Салаўі чары-песенькі пелі.

Расьпявалі яны
Аб каханьні вясны—
Песьні-хвалі ліліся наўкола,
І ад песенек тых
Завіваліся сны,
Паланілі шырокія долы.

Помню вечар вясной,
Гаварыў я з табой
Пра жыцьцё, пра таемныя далі,
А ў лагчыне глухой,
За гарбатай гарой
Сож з Чагорай вясельле спраўлялі.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Заўтра цягнік цябе
На завод павязе,
Будзеш слухаць ты лёскат машыны,
Ну, а я канюхом
З табуном у лазе
Захаваю аб ночцы ўспаміны.

* * *

Ой, і хочацца ў струны ударыць,
Паразьліць ў гаі-пушчы вясельле,
Каб шпарчэй разьляталіся мары,
Каб шпарчэй разьлілось весназельле.
Завірухай вадзіць карагоды,
Разбудзіць песьні звонкага гаю,
Бо сягоньня—
хай кожны з нас знае—
Разьліліся мяцежныя воды.

Бо сягоньня—
буяніць прывольле,
Бо сягоньня—
разгорнуцца грудзі,
Муравой апранулася поле,
Каб у раніцу цела ня студзіць.

Мяне вабяць мурожныя далі,
Дзе танцуе разчухраны марац,
І сьпяваць, і каб струны сьпявалі...
Ой, і хочацца ў струны ударыць...

# Байкі Крапівы

## Мачыха

Здароў і дуж быў селянін Антось,
І рукі залатыя ў дзядзі,
І нават галава нішто,
Ды толькі лёс яго ня гладзіў:
Дзьве жонкі ўжо ляглі ў магілу,
А пасьля іх дзяцей, як бобу,
І самых гэтакіх бубноў,
Што аднаму дагледзіць не пад сілу.
Ну, што-ж рабіць?—жаніўся зноў,
І ўзяў, браткі мае, аздобу—
Ні з твару цётка, ні з грудзей,—
І ўсё ня так, як у людзей,—
Ня надта вабіць і Антося,
Ды што-ж, калі ўжо так прышлося...
Пажыў Антось адзін, другі, чацьверты годзік—
Бяда яму, канца няма бядзе:
Хоць жонка харством — як пудзіла ў гародзе,
А што ні год—малое прывядзе.
І пачалося тут сіротам пекла:
Ня раз іх „мама“ тая пугай секла;
Сваіх заўсёды вунь як песьціць,
А тым шкадуе, бедным, есьці,
Таго штурхне, таго рвяне за вушы,
І ўсіх бяз меры працай душыць.
Адзеньне-ж тое!—лахманы.
Нікому й не паскардзяцца яны,
Бо і за скаргу гэтак сама
Ня гладзіць іх чужая мама.
А языком яна перад людзьмі—
Ня трэба й роднай лепшай мамы,—

Хоць ты вось так яе вазьмі
Дый прылажы да раны.
— Я за сірот, здаецца, аддала-б душу,—
Чуць на руках іх не нашу,—
Так расьпінаецца кабеціна ў мане,
Што ні канца, ні краю.
— Хацяб яны глядзелі так мяне,
Як буду я старая.
Яны ў мяне ня пасынкі, ня падчарыцы—госьці,
А што ў іх толькі шкура й косьці,
Дык гэта ўжо завод такі,
Такія-ж іх былі і мацяркі.
Ох, мачыхі! І добрыя-ж усе яны бяз меры!
Ды толькі чорт ім лысы верыў.

---

Чаму я гэта расказаў?
Таму, што не адзін ёсьць „зав“,
Які адных, як мачыха ліхая,
Заўсёды крыўдзіць, папіхае,
Другіх, як мама родная, ён песьціць.
Я шмат прыкладаў мог-бы тут прывесьці
І фактаў аб такой вось „маме“,
Ды толькі вы спаткаеце іх самі.

## Хто сьпіць, той ня грэшыць

Хоць я на іх ня маю вока
Ї знацца з імі не хачу,
Аднак-жа байку прысьвячу
Угоднікам і абібокам.
Вы байку гэту чулі, можа,
А можа й не:
Калісьці ў нашай старане
Ды жыў угоднік божы.
Каб на зямлі не награшыць
Ї бліжай быць да бога,
Угоднік так павінен быў рашыць:
Нічога не рабіць, не гаварыць нічога,
Ня думаць нават, толькі спаць.
Ї вось гадоў мо' сорак пяць
Так на адным праспаў ён месцы.
Як прынясуць, бывала, есьці,
Дык набярэцца моўчыкам ды зноў на бок.
Калі-ж памёр вялікі абібок
Сьвяты ўгоднік лотра,
Рай адчыніў яму сам Пётра.

---

Яшчэ-б тут можна байкаю пацешыць,
Ды не хачу трывожыць вашых сноў я,
Ня буду,—сьпеце на здароўе:
Хто сьпіць, дык той ня грэшыць.

**Антось Замежны**

# Галадоўка

*(З вастрожнага жыцьця Зах. Беларусі)*

Вастрог.

У цеснай камеры два ложкі, пяць палітычных вязьняў. Смрод ад ражкі прасяк вопраткі, пасьцель, усе прадметы, атруціў паветра. Пры дыханьні відаць пар—сьцюжа, асабліва сьцюдзёна тым тром, што ляжаць на зямлі.

А ляжаць усе, бо пяты дзень галадоўкі.

Быць забітым на барыкадах—гэройства, але больш за гэройства галадоўкай ваяваць—сьвядома аднімаць жыцьцё па капельцы, паволі паміраць ад голаду.

Асабліва цяжка пераваліць за трэці дзень. Кожны рух вызывае мукі голаду, да роспачы хочацца есьці, грызьці, глытаць, ва ўсім целе боль, ґалава напоўнена калючым шумам, няпрытомныя бліскучыя вочы.

Чацьверты і пяты дзень сардэчныя прыпадкі, у вачох цёмныя плямы, жудасная сапатыя, чалавек зусім хворы, цела паступова руйнуецца.

Яшчэ ўчора раніцай, калі семнаццацігодні комсамолец Віктар вельмі саслабеў, прыходзіў начальнік вастрогу і спачуваючы казаў:

— Панове, я прывык да ўсяго, але ваш жудасны выгляд і цярпеньні абудзілі сэрца ў маіх грудзёх. Успомніце сваіх жонак, матак, дзяцей,—пакіньце галадаць.

Аднак, вечарам таго-ж дня пад яго камандай вастрожная варта, выламваючы зубы і крывавячы твар, хацела сілком накарміць галадуючых,—толькі-ж не ўдалося, усе пяць не паддаліся.

Найслабей сябе адчуваў Віктар. Пранёсшы ў свой час катаваньні дэфэнзывы, сядзеў ужо трэці год у вастрозе. Кволы, зямлісты ў твары, зьнядужэлы ўсё шаптаў:

— Каб толькі не да сьмерці, вытрываць каб.

А праз якісь час дабаўляў:

— Мсьціць-бы мне ім, мсьціць.

Усіх пяцёх галадоўка ўжо ня толькі мучыла, але і пагражала. Пяты дзень, а ніякіх уступак іхнім дамаганьням.

Чым скончыцца? Ці вытрываюць? Ці перамогуць? Рой розных думак кружыў у галаве, але ўсё перамагаў голад. Есьці! Есьці!

Рашылі зрабіць нараду. Тры выказаліся за галадоўку, два, каб кончыць.

Віктар і Янка—селянін-паўстанец рашылі прыняць страву; неўмагату было трываць далей мукі голаду—конвульсыўна чапляліся за жыцьцё, былі ўпэўнены, што начальнік вастрогу ня здасца, ня ўступіць.

Дык вось ждуць да заўтрашняга шостага дню, да абеду і...

Гэтае „і“ стала горш прыкрым за смрод ражкі. Быццам нявідзімы вораг разьмясьціўся паміж імі.

Загаварыў першым паўстанец, каб прабіць дакучлівую маўчанку.

— А што гэта, Тамаш, стаў такім панурым, мо' хочаш да нас далучыцца? Паганае гэта дзела—ня вытрываць, але нічога, брат, не папішаш, трудна ўжо вельмі.

— Ды не,—адказаў спакойна Тамаш,—я ўсё думаю аб сваёй вёсцы, аб Бойкавічах.

— Думай у голас, час хутчэй пройдзе,—падахвоціў адзін з пяці.

— Вёска Бойкавічы таксама ў турме—у панскай Польшчы, але там інакш—тут турма ў турме, тут толькі слухай, як цябе немач разьядае, а там барацьба.

А так Бойкавічы звычайная сабе вёска, такіх вёсак шмат,—упяклася яна ў пячонкі окупантам, а нас сялян называюць бальшавікамі ды бандытамі. Поп і ксёндз выклінаалі нас колькі разоў у сваіх бажніцах, а нашыя старэнькія бабкі, што ў іх на пабягушках, дык жаліліся, што праз нас духоўнікі гэтыя ня хочуць іх спавядаць,—ім клопат, а нам сьмех.

Моладзь наша любіць пазьдзеквацца з начальства, калі яно да нас у Бойкавічы заедзе. А начальства ў нас, як у нудзе плюгаўства,—не абярэшся, што ні окупант, дык і начальнік, а ўсе такія пышныя, фанабэрыстыя. Вось ім і падстрояць штуку. У колах загваздкі павымаюць, гною ў сядзеньне на-

кладуць ці клямку ў дзьвярах у дзёгаць вымажуць. Ох, бывала, і фыркаюць, і пеняцца са злосьці.

Вось чаго, дык у падводы ня любілі нашы байкаўчане езьдзіць, а з гэтым нам асабліва дакучалі, мучылі. Павязеш якога дармаеда з гміны, дык ужо мецііш так падстроіць, каб што-небудзь сапсавалася,—ці ў гразь управіш каламажку, а чысьценькі панок тады дзыгае па балоце, ці, праяждаючы брод, падмочыш вяльможнага, а ў санках вывернеш ня раз, а то заблудзіш ды паедзеш у іншы бок. Ведама, захацеўшы заўсёды падстроіць можна, ды яшчэ выбіраеш, каб лепш насаліць. Так і адвучылі ад падвод. З гэтым панствам інакш нельга.

Ну, а што да суседняга пана каля Бойкавіч, дык мы з ім як-бы і ладзім, толькі ён да нас зьверам. Праўда, раз сьпяклі сырабойню са збожжам, але гэта мы яшчэ падобрасьці; бо як-жа—адабраў гэта ў нас сэрвітут, значыць, і скацінка наша зараўла так, як мы раўлі з бяды. На добры парадак гэткага зьвера толькі ў магілу, а зямля нам,—а мы з ім цацкаемся, ён-жа усё роўна гад гадам. Памятаю, зрабілі раз у панскім двары забастоўку жней. Стаіць ніва, і капаюць залатыя сьлёзы, плача і пан, але не здаецца. Ажно з суседняй вёскі—там каталікі—бабы згаварыліся і пашлі жаць. Мы барджэй да мужчын, так і так кажам, гадаўё вы, здраднікі. Што-ж, кажуць, з бабай зробіш, мы іх і лаялі-білі, а ім хоць-бы што. А вось мы усё-ткі далі рады. З лапак ды саломы нарабілі вогнішч, ды так пусьцілі дыму, што бабы прыляцелі з поля, як адна, тушыць пажар, а мы іх, як авечак, павязалі і трымалі, пакуль ім не адпала ахвота жаць. А як пераламалі пана, дык і самі рады былі,—цёмныя шэльмы, а так яны народ працавіты і выносьлівы.

Словам, у окупантаў маем вялікую няміласьць. Калі хто з другой вёскі стане ім упоперак дарогі, дык яны яму: ці не да Бойкавічаў запісаўся, ці ня з Бойкавіч ты вырваўся і г. д. А нам з гэтага што, няхай сабе! У нас ужо пастаноўлена, што як рэволюцыя, дык каб іх чыста, гладка, з коранем, значыць. Але што пра нас казаць! Нашы сабакі, здаецца, вось жывёліна, а вунь і тыя разьбіраюцца. Хай табе праз вёску наш брат ідзе—ну, які спачувае—дык воўкарэзіна ані пісьне, ані цяўкне; а калі ідзе з іхняй хаўрузіі, дык падымуць такі гармідар, як на воўка, хоць вушы затыкай. Яно то зразумела, сабака ўгадвае і бяду тваю, і што на сэрцы ляжыць.

Ну, а колькі арыштаў ды налётаў было на Бойкавічы, дык не налічышся. Перавернуць усе хаты, перакапаюць агароды і нічога ня знойдуць, а ведаюць: ёсьць што шукаць. Іншы раз дык мы іх і пацешым. Абклеім усю вёску адозвамі, чырвоных сьцягаў панавывешваем, а там праз колькі дзянькоў запрашаем паліцыю: будзьце ласкавы, зьнімеце, нехта нам панаклейваў. Скрыгочуць зубамі са злосьці і зьнімаюць. Такіх турбот мы задаём ім ня мала. Унадзіліся было шпікі поўзаць у Бойкавічы; пераапранецца іншы ў жабрака і цягаецца па хатах выпытвае, вынюхвае. Жабраком хлеб адабралі, бо мы ўсіх іх вон гналі і іншыя вёскі папярэдзілі. Адзін наш дзяцюк таксама пераапрануўся ў жабрака,—гэта нашаму брату лёгка даецца,—ну і падбухторыў жабракоў, расказаў, чаму іх праганяюць, а тыя змобілізаваліся, ды прыцюцюрылі аднаго ці двух шпікоў. Так і супакоіліся на нейкі час.

А то раз мітынгаваў ў Бойкавічах комуністы; былі і з іншых вёсак, так што мы рашылі пасьля мітынгу даць знаць у паліцыю, што вось быў у нас комуністы, шукайце,—каб застрахавацць сябе на іншы раз. Так і зрабілі. Навярнула ў Бойкавічы паўнюсенька чорных груганоў, але-ж папрабуй злавіць вецер ў полі. Пшэдоўнік загадаў, каб кожнага падазронага чалавека ў будучым, пад пагрозай турмы, дастаўлялі ў пастарунак. І ці паверыце,—даставілі.

Праз некалькі дзён пасьля мітынгу прыходзіць у вёску пажылы чалавечак і дапытвае аб сыну, што мітынгаваў, бо не вярнуўся ці забілі яго дзе, ці арыштавалі. Дапытвае і плача, адозвы нашыя паказвае і просіць, каб памаглі шукаць. Мы скемілі, што гэта за птушка, жвава сцапалі як падазронага, адластажылі ў волю ды на пастарунак, а там яго і браць ня хочуць, моршчацца ды фыркаюць.

Эх! вось так баючы аб ўсім гэтым, дык здаецца глупства, лёгка даецца. Аднак няма такога, хто не атруціў-бы сабе кроў у гміне, на судзе, на кожным кроку; няма такога, хто ня сядзеў-бы ў турме, ня быў пабіты. Ну, вось мы і трымаем еднасьць, адзін фронт, дружна трымаем. Ня раз памыкаліся разьбіць нашу рэволюцыйную сям'ю. Прыехаў такі сабе панаваты чалавечак і на польскую школу стаў нагаварваць, а беларускую бэсьціць да рэшты. Вось у яго і пытаем.

— А пан-жа якую школу кончыў?

— Ну, ведама, кажа, польскую.

— Нечага тады ўгаварваць, мы хочам, каб нашы дзеці былі разумныя, а не такія, як пан.

Тады пачаў ён напяваць аб згодзе, аб братэрстве, а нам усё гэта надакучыла, дык той ці іншы з грамады не, а то і абязьвечыць моцным слоўцам. Пан спачатку ня цяміў, але яго прыбочны шапнуў на вуха яму, ну, пан на поўслове абарваў і барджэй джгануў з вёскі.

Але ня толькі ўгаворамі хацелі нашу рэволюцыйнаю волю скамячыць. Было і так, што Бойкавічы перажылі як-бы судны дзень—ад маладога да вялікага былі зьбіты нахлынуўшай поліцыяй і шпікамі. У мяне вось і цяпер скабіна тырчыць—зажыў, зросься пералом, а Юрка сусед мой быў хворы, дык ня стрываў, здаўся. Цяпер па Бойкавічах штомесяц ходзіць ад хаты да хаты малаток, які празвалі „малатком Юркі“, гэта значыць, што ў працягу месяца кожная хата зьбірае на палітычных вязьняў. Гэты малаток стукае ў нас на кожнай бяседзе, на кожнай сходцы ці прыгодзе,—ён напамінае, што нам трэба зруйнаваць турмы, зваліць панскую ўладу і наладзіць савецкі лад...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Віктар закашляўся і перабіў расказ,—ён пачаў жаліцца на боль у сэрцы, пашла кроў з носа і раптам абамлеў. Таварышы Віктара паднялі трывогу. Зьбегліся дазорцы, прышоў і начальнік вастрогу са сваімі прапановамі пакончыць галадоўку, абяцаючы палёгкі таму, хто першы кіне галадаць.

— Вон адгэтуль!—раптам закрычаў развогнены Віктар на начальніка вастрогу.—Хочаш разьбіць нашу еднасьць, парабіць нас пакорнымі нявольнікамі. Ніколі! сьмерці нашай дачакаешся, а не пакоры. Мы ўжо на палову мерцьвякі—любуйся сваім дзелам,—але воля наша так-жа жывуча і цьвёрда, як і там, за мурам была, за тым мурам, дзе малаток Юркі выстуквае апошнія твае хвіліны, выстуквае наша вызваленьне. Мы вытрымаем, праўда, хлопцы, вытрымаем! То-ж камера наша называецца Бойкавічы.

Дазорцы кінуліся на Віктара, але начальнік іх спыніў—яму здалося, што Віктар трызьніць, што ён альбо ў гарачцы, альбо звар'яцеў. Сказаўшы яшчэ нешта недарэчнае аб галадоўцы, начальнік вышаў з камеры пяці са сваімі паслугачамі.

А на сёмы дзень галадоўкі задаволіў дамаганьні пяцёх.

**Мік. Шапавалаў**

# Дыктатура і дэмократыя

— Усякая дзяржава ёсьць асаблівая сіла для падаўленьня і ўціску клясы.

Дзеля гэтага ўсякая дзяржава не свабодна і не народна.

**Ленін.**

## I

Што такое дыктатура?

Дыктатура ёсьць вайскова-рэволюцыйны рэжым, улада, якая апіраецца на прымус і якая ня кіруецца ніякімі законамі, апрача тых, якія яна лічыць неабходнымі для падтрыманьня гэтага рэжыму.

Формальна, дыктатура можа быць аднэй асобы, фактычна—не. Яшчэ ня было дыктатуры, якая-б не адбівала думкі якое-небудзь клясы альбо партыі.

Дыктатура аднэй асобы можа быць моцнай і доўгай толькі ў тым выпадку, калі рэжым, які яна ўтварае, адпавядае інтарэсам пануючай клясы, але тады яна не зьяўляецца дыктатурай пэўнае асобы, а клясы. Гэта асоба—дыктатар—толькі выявіцель і выканаўца грамадзкае думкі клясы, якая высунула яго для правядзеньня гэтага рэжыму і падаўленьня ў інтарэсах сваёй клясы іншых кляс.

Каб праводзіць дыктатуру альбо, іначай кажучы, утвараць у якой-небудзь краіне вышэйазначаны рэжым, трэба ведаць, над кім гэты рэжым будзе праводзіцца. Каб дыктатарстваваць, трэба ведаць над кім. Без наліччa вызначаных кляс у грамадзе, над якімі можна ўтвараць дыктатуру, немагчыма аніякая дыктатура. Няма дыктатуры над няведамымі сіламі, ёсьць дыктатура пэўнае клясы над іншымі клясамі.

У нашай краіне ёсьць рэволюцыйная дыктатура пролетарыяту над клясай буржуазіі, якая праводзіць пэўную мэту: падавіць спробы буржуазіі аднавіць зьнішчанае рэволюцыяй яе панаваньне.

Па Леніну—„рэволюцыйная дыктатура пролетарыяту ёсьць улада, якая заваявана і падтрымліваецца прымусам пролетарыяту над буржуазіяй,—улада, ня зьвязаная аніякімі законамі“.

Прыведзеныя словы Ўл. І. Леніна трэба разумець у тым сэнсе, што ўлада пролетарыяту, якая ўтворана ў выніку прымусовае рэволюцыі і замацаваная ў форме яго дыктатуры над буржуазіяй, не прызнае законаў утвораных да яе,—у час панаваньня буржуазіі, бо гэтыя законы накіраваны супроць інтарэсаў пролетарыяту, з гэтымі законамі яна сябе ня зьвязвае. Пад законамі трэба разумець ня толькі афіцыяльна выданыя ўказы, дэкрэты і інш. дзяржаўныя акты, якія напісаны на паперы, але і законы іншага парадку, якія ў час буржуазнага панаваньня былі замацаваны, як маральныя і бытовыя правілы, парушаць якія было забаронена грамадзкай думкай пануючай клясы. Каб разумець сэнс законаў, якімі буржуазная грамадзкасьць закабаляла прыгнечаныя клясы, трэба ўзяць іх ува ўсёй цэльнасьці, трэба да афіцыяльна выданых законаў далучыць яшчэ законы-правілы, якія прынялі форму звычаяў, напрыклад, законы комэрцыйныя, якія выпрацаваны гадамі і ўвашлі ў „цела і кроў“,—законы эксплёатацыі працоўнага люду і г. д.

Замест гэтых законаў улада пролетарыяту ўстанаўляе новыя законы, адпавядаючыя інтарэсам рабочае клясы і беднейшага сялянства. Яны накіраваны да ўзмацненьня ўлады пролетарыяту і разбурэньня рэштак буржуазнага парадку. Гэтыя законы ўлада пролетарыяту прызнае і імі кіруецца, але яна ня лічыць іх „вечнымі катэгорыямі“,—калі патрабуюць інтарэсы рэволюцыі, зьмяняе іх.

Дыктатура пролетарыяту не выяўляецца выключна ў форме альбо тыпе пролетарскае дзяржаўнасьці.

Яна таксама не абмяжоўваецца мерамі вайсковага, руйнуючага характару. Калі яна азначае вайну з эксплёататарамі, дык характар гэтае вайны ня толькі вайсковы.

Дыктатура пролетарыяту праходзіць ва ўсе жылкі грамадзкага, экономічнага, гаспадарчага жыцьця краіны.

Разам з руйнуючым характарам—гэты рэжым носіць, у той-жа час, і вытворча-будаўнічы характар. Дыктатура пролетарыяту ёсьць цэльная сыстэма на асобны лад сконструяванага дзяржаўнага організму, усебакова прыстасаванага як да

вайсковай, так і да экономічнае і ідэолёгічнае барацьбы з буржуазіяй.

Можа паўстаць пытаньне, дзеля чаго трэба гэтая барацьба і прыстасаваны да яе вайскова-рэволюцыйны рэжым, раз пролетарыят знаходзіцца ва ўладзе.

„Дыктатура патрэбна, кажа Ленін,

— затым, каб зламаць супраціўленьне буржуазіі,

— затым, каб надаць рэакцыянэрам страх,

— затым, каб падтрымаць аўторытэт узброенага народу супроць дэмократыі,

— затым, каб пролетарыят мог прымусова падавіць сваіх праціўнікаў“ *).

Няроўнае змаганьне пролетарыяту з буржуазіяй, якая ўладае вялікаю практыкаю, ва ўмовах яе ўпартага супраціўленьня і фактычнай перавагі над пролетарыятам, нямінуча для посьпеху павінна прыняць форму дыктатуры пролетарыяту.

На прыкладзе цэлага шэрагу гістарычных фактаў мы можам упэўніцца, што, згубіўшы ўладу і панаваньне ў краіне, буржуазія ніколі не пакіне спробу вярнуцца да ўлады, а дзеля таго, каб зрабіць для яе гэта немагчымым,—патрэбна дыктатура пролетарыяту.

Узброеным захватам улады распачынаецца пролетарская рэволюцыя; са зьнішчэньнем буржуазнай дзяржаўнай машыны і прыдушэньнем супраціўленьня буржуазіі яна канчаецца.

Пакуль гэта супраціўленьне непераможана, нельга думаць аб канцы рэволюцыі, гэта было-б усё роўна, што, не пераскочыўшы рэчкі, сказаць „гоп“. І вось рэжым, які ўтвараецца ў гэты час супраціўленьня буржуазіі і руйнаваньня яе дзяржаўнага апарату, мае назву дыктатуры пролетарыяту.

Да Кастрычнікавай рэволюцыі 1917 году пытаньне аб дыктатуры пролетарыяту атрымала тэорытычнае абсталяваньне ў працах У. І. Леніна, а пасьля зьвяршэньня рэволюцыі ў Расіі яно знашло сабе практычнае прыстасаваньне ва ўтворанай рэволюцыяй новай пролетарскай дзяржаве—СССР, у якой савецкі лад ёсьць нішто іншае, як форма праяўленьня дыктатуры пролетарыяту.

---

*) Ленін, т. XV, стар. 432, 2 выд.

## II

Дыктатура пролетарыяту дапушчае парушэньне прынцыпаў дэмократыі для буржуазіі і не выключае ўстанаўленьня гэтых прынцыпаў для рабочае клясы. Зусім зразумела, пакуль існуюць клясы з супярэчнымі інтарэсамі, ня можа быць „об‘ектыўна-чыстай“, няклясавай дэмократыі.

— „Дэмократыя, кажа Ленін, азначае формальную роўнасьць“. Дэмократыя, будзем развражаць мы, дапушчае аднальковыя для ўсіх правы прымаць удзел у грамадзкім і палітычным жыцьці краіны. Але гэта юрыдычнае формальнае права ня можа яшчэ азначаць фактычнай роўнасьці, бо яно не дае роўнасьці экономічнай. Роўнасьць—міраж, калі яна дазваляе аднаму грамадзяніну бяз працы праводзіць час у балях, гульні і вясельлі, а другому працаваць і паміраць з голаду. „Чыстая“ дэмократыя, у гэтых няроўных экономічных умовах, на справе зьяўляецца чыстай дэмократыяй для буржуазіі; да рабочых-жа, якія прыгнечаны ўціскам капіталізму, уміраючым з голаду, яна ня тычыцца. Для іх „чыстая“ дэмократыя зьўляецца прымусам буржуазіі і яе фактычнай дыктатурай над працоўнай клясай. Для меншавікоў дэмократыя надклясавая, альбо па-заклясавая. Яны прызнаюць існаваньне дэмократыі наогул, як об‘ектыўнай, вечнай, катэгорычнай ісьціны, а таксама і дыктатуры наогул. Гэта апошняя—„ліха“, першая—„дабро“. Няма дэмократыі для якой-небудзь клясы, а ёсьць яна для ўсіх кляс, і няма дыктатуры над якой-небудзь клясай, а ёсьць яна над усімі клясамі.

У процілегласьць меншавізму, бальшавізм вучыць, што „чыстай,“ „об‘ектыўнай“ дыктатуры і дэмократыі няма. Для бальшавізму ня існуе як дэмократыі наогул, таксама і дыктатуры наогул. Па Леніну, як мы маглі бачыць вышэй, існуе дыктатура пэўнае клясы, таксама і дэмократыя для пэўнае клясы. Яшчэ Плеханаў ня раз казаў, што карысьць пролетарыяту ёсьць вышэйшы закон, якім павінна кіравацца соцыял-дэмократыя, і што для рабочай партыі дэмократыя ёсьць ня мэта, а спосаб дасягненьня тэй мэты, якой яна служыць.

Пры аналізе гэтых разуменьняў мы ўбачым, што „чыстая“ дэмократыя, якая прапаведваецца меншавікамі, сапраўды зьяўляецца дэмократыяй для буржуазіі і асаблівай формай яе дыктатуры над пролетарыятам; а дыктатура, аб якой вучыць

бальшавізм,—ёсьць дыктатура над буржуазіяй і дэмократыя для пролетарыяту.

Мы ўжо казалі, што ў капіталістычнай грамадзе ня можа быць фактычнае роўнасьці, бо там няма роўнасьці эканомічнае. Ня можа быць роўнасьці паміж эксплёататарам і эксплёатаваным, бо першы атрымлівае магчымасьць жыць на багацтва, якія ўтвараюцца потам апошняга.

Пры павярхоўным поглядзе на дзяржаву з дэмократычным парадкам, працоўнаму часам бывае цяжка адкрыць яе соцыяльную прыроду. Надворна там існуе многа вольнасьцяй: друку, сходаў, роўнапраўны ўдзел у выбарах у парлямант і г. д., па сутнасьці-ж імі можа карыстацца ў поўнай меры толькі буржуазія. Свабода друку сама па сабе нічога не дае пролетарыяту, бо пры ўсёй гэтай „свабодзе“ ў яго няма сродкаў, неабходных для выданьня літаратуры і газэт. Апрача таго, буржуазія ўжывае розныя спосабы для барацьбы з рабочымі выдавецтвамі і рэдакцыямі, калі яны нават і ўзьнікаюць. Выпадкі зруйнаваньня рабочых друкарань і конфіскацыі газэт, асабліва комуністычных, цкаваньне іх буржуазным друкам, бываюць так часта, што якраз аб свабодзе гаварыць ніяк не выпадае. Ня дзіва пасьля таго, што—у параўнаньні з буржуазным друкам—рабочы друк нікчэмны, малы. Ён ня можа задаваляць нават сваім лікам шырокія працоўныя гушчы, дзеля чаго мы маем вельмі многа выпадкаў, асабліва ў краінах з дэмократычным парадкам (Англія, Нямеччына), калі працоўны ня толькі ня выпісвае, але і зусім ня чытае сваёй газэты, а замест яе бярэ іншую, буржуазную, якая і кіруе яго думкамі.

Гэтак сама і са „свабодай“ сходаў: тэорытычна—зьбірацца можна, а практычна—спрабуй! Хіба пад адчыненым небам!

Свабода сходаў—пустое слова, калі для іх організацыі няма памяшканьняў, а калі яны і ёсьць, дык ня ўсякі буржуа згодзіцца нават і за плату даць яго для працоўных. Мы маем на ўвазе выпадкі ў Бэрліне, дзе ў час перавыбарных сходаў буржуазія нават соцыял-дэмократам не здавала памяшканьняў.

А парлямант, якая яго роля? Аднабаковая, фальшывая. За ім застаецца права толькі фіксаваць пастановы ўжо прынятыя за яго сьцянамі. Масавыя падкупы дэпутатаў забясьпечваюць правал усякага нявыгоднага для буржуазіі закону,

калі толькі наогул ён можа быць унесены. „У парлямантах, гаворыць Ленін, толькі лапочуць языком са спэцыяльнай мэтай ашукаць „простанародзьдзе“. Увесь удзел гэтага „простанародзьдзя“ ў кіраваньні дзяржавай выяўляецца ў выбарах у парлямант“.

Адзін раз у некалькі гадоў яны вырашаюць пытаньне, кажа Карл Маркс: „які член пануючай клясы будзе выяўляць і падаўляць народ у парляманце“. Бывае часам так, што ўлада дастаецца рабочай (меншавіцкай) партыі і кіраваньне краінай яе прадстаўніком, але ва ўмовах капіталістычнага рэжыму, яны ня могуць выявіць волю большасьці працоўнага насельніцтва, а хутчэй выяўляюць інтарэсы чужой яму клясы, зьмяняюць свайму клясу, і гэтым самым падтрымліваюць буржуазію. Калі-ж яны і прабуюць правесьці той ці іншы закон, які адпавядае інтарэсам рабочае клясы, дык гэта прыводзіць да міністэрскага крызісу. Прыкладаў здрады рабочых правадыроў, і іх палітыкі ў буржуазных дзяржавах многа. Зьнішчэньне ўлады Макданальда ў Англіі, паводзіны рабочых правадыроў-меншавікоў у Нямеччыне ў час кампаніі за экспропрыяцыю ад былых в. князёў іх багацьцяў, палітыка і паводзіны рабочых правадыроў у час цяперашняй забастоўкі ў Англіі і г. д. яскрава сьведчаць аб гэтым.

Ня гледзячы на ўсё гэта трэба наогул сказаць, што выпадкі кіраваньня дзяржавай рабочымі партыямі вельмі рэдкія; характар-жа і ўнутраны зьмест гэтых партый не прадстаўляе вялікай небясьпекі для буржуазіі, бо яны ня імкнуцца да зьнішчэньня яе панаваньня.

Падрахуем вынікі: буржуазія дапушчае існаваньне дэмократыі ў межах, якія дазваляе ёй капіталістычны лад, і калі на палітычнай арэне зьяўляюцца грамадзкія сілы, якія пагражаюць яго існаваньню, яна ня доўга думаючы, адкідае ўсякія дэмократычныя прынцыпы, падаўляючы супраціўленьне.

Дэмократыя ў буржуазных дзяржавах ёсьць дэмократыя для меншасьці—для буржуазіі, і дыктатура для большасьці—для рабочае клясы. Але гэта дыктатура мае захаваны характар і непасрэдна яе ня відаць.

Яна толькі часам у крытычныя моманты прарываецца на паверхню і выяўляе сваю сапраўдную соцыяльную прыроду, свой твар.

Дыктатура-ж пролетарыяту над буржуазіяй, ёсьць адкрытая вайна з ёй, формальная і фактычная. Дыктатура пролетарыяту, азначае ў той-жа час і дэмократыю для пролетарыяту. У сваёй кніжцы „Дзіцячая хвароба лявізны“ Ленін кажа, што ў нас „павятовыя зьезды саветаў зьяўляюцца такімі дэмократычнымі ўстановамі, якіх яшчэ ня бачылі самыя лепшыя з дэмократычных рэспублік буржуазнага сьвету“.

У процілегласьць імкненьняў буржуазіі ўтварыць сваё панаваньне ў форме дзяржавы з дэмократычнай уладай, зрабіць гэта панаваньне вечным,—пролетарская дзяржава, якая імкнецца да ўтварэньня бясклясавае комуністычнае грамады, сама падрыхтоўвае сябе да адміраньня. З адміраньнем-жа яе адамрэ і дыктатура і дэмократыя. Грамада пяройдзе ў новую фазу свайго гістарычнага разьвіцьця, у якой, толькі, як помнікі, захаваюцца клясавыя антагонізмы і клясавая барацьба.

С. Баркоўскі

# Вясельны быт беларускага селяніна

У гэтым артыкуле мы задаліся мэтай разабраць невялічкую частку быту беларуса. Аднэй з цікавейшых асаблівасьцяй яго—гэта песьня. Лірыка гэтых песень адзначаецца высокімі поэтычнымі якасьцямі, ахапляючы самыя markдзнастайныя бакі народнага жыцьця; у песьнях мы знаходзім верны, мастацкі адбітак нядаўнага мінулага жыцьця беларускага селяніна. Усе яны даюць прыгожыя ўзоры народнае псыхолёгіі.

Мы выбралі аддзел вясельных песень. Разглядаючы поэтычныя мотывы іх, можна выявіць суцэльныя поэтычныя вобразы галоўных асоб абраду: маладога (жаніха) і маладое, іх адносіны паміж сабою, да свае сям'і і да чужое і г. д.

Усе песьні, якія захаваліся, пяюцца беларусом у сьвяточныя дні, як купала, коляды і г. д., гэтак і больш выдатныя моманты яго асабовага жыцьця, дышуць старасьветчынай і малююць бытавыя абставіны жыцьця беларуса; у іх беларус пяе аб сваёй радасьці і аб горы; у іх чуваць мотывы даўнейшых паганскіх часоў, цяпер ужо незразумелыя сучасным пакаленьням, продкі якіх пяялі гэтыя песьні ў цяністых гайкох перад сваімі багамі.

Бытавыя вясельныя песьні ўтвараліся сталецьцямі і сталецьцямі захоўваюцца народам. Ясна дзеля гэтага, што ў народных бытавых песьнях аб вясельлі мы сустракаем і такія моманты, якія малююць нам шлюбныя адносіны ў больш старыя часы і не зьяўляюцца ўласнасьцю сучаснасьці. Мы задаліся мэтай апісаць бытавы вясельны абрад так, як яго малююць этнографічныя матэрыялы, якія сабраны цэлым шэрагам дасьледчыкаў беларускае народнае эпічнае творчасьці.

Да пачатку ўтварэньня Расійскай дзяржавы, гэта значыць к IX ст., абшар цяперашняе Беларусі быў заселены ўжо славянскімі пляменьнямі. Наш старадаўны летапісец пералічвае розныя назвы гэтых пляменьняў, запазычваючы, як ві-

дацъ, з грэцкіх гісторыкаў бізантыцкага пэрыоду. У гэтым старажытна-расійскім летапісу ад пачатку XII стагодзьдзя, мы маем некаторыя весткі ці намёкі аб жыцьці нашых продкаў у тыя часы; гэтыя паведамленьні апісваюць вясельныя і хаўтурныя звычаі. Вось як іх перадае нам летапісец: „Имяху бо абычай свой, и закон отец своих и преданья, каждо свой нрав. А Родимичи и Вятичи, и Север один обычай имяху: живяху в лесех, якоже и всякий зверь, ядуще все нечисто. И срамословье в них пред отьци и пред снохами. И браци (вясельляў) не бываху в них, но игрыще межи сел: схожахуся на игрыща, на плясанья и на вся бесовския песни, и ту умыкаху жены собе, с нею-же кто с'вещашеся; имяху-же по две и по три жены. И аще кто умираше, творяху тризну над ним, и по сем творяху кладу велику и возлажахуть на кладу мертвеца, сожьжаху, и посем собравши кости, вложаху в судину малу и постовляху на столпе на путех, еже творят Вятичи и ныне. Сии-же обычая творяху Кривичы и прочии, не ведуще закона божия, но творяще сами себе закон“ [1]).

Пададзены адрывак тычыцца часткова і вясельных абрадаў беларускага селяніна ў XII ст. Са зьменаю галоўных гістарычных момантаў у гісторыі Беларусі, уносілася новае і ў народныя бытавыя вераваньні. Этнографічны склад насельніцтва Беларусі не аднолькавы. Гэта рознастайнасьць складу ў тэй ці іншай меры зрабіла ўплыў на формаваньне нацыянальных рыс беларуса ў ходзе гістарычнага разьвіцьця.

## I

Дзяўчына ў вельмі раньнім узросьце ўступае ў той шчасьлівы пэрыод свайго жыцьця, калі на яе пачынаюць глядзець, як на сталую, на нявесту, на яе заглядаюцца хлапцы, робяць залёты да яе; яна ў сваю чаргу спыняе сваю ўвагу то на тым, то на другім, пакуль, урэшце, ня выбера сабе „сябра па думцы“. Час, у які на волі разьвіваецца „дзявочая краса—усяму роду прыкраса“, ня вельмі доўгі. Дзяўчына разумее гэта і сьпяшаецца ўпівацца асалодай прыроды і маладым жыцьцём. Яна разумее, што пройдзе год-два—і прыдуць сваты, адарвуць яе ад бацькоў, ад мілага хлапца і аддадуць на „чужую чужыну,

---

[1]) Летопись по Лаврентьевскому списку. Выд. Археографічнай Камісіі. СПБ, 1872, стар. 12-13.

у вяліку сям'ю, у цяжку няволю". Між тым яе прыгожасьць у гэты час пачынае толькі разьвівацца. Сялянская моладзь шумна спраўляе ўсе свае абрады: на тройцу, у дзень купалы, на коляды, у вялікдзень—раздаюцца вясёлыя песьні, адпавядаючыя зьместу сьвятак. Зімою, на „вячорках", пяюць песьні зімовыя: піліпаўскія і вялікодныя.

У песьнях, якія малююць дзявочае жыцьцё, вельмі выдатна адбіваецца „мілы"; усе яе думкі заняты ім; яна для яго „галаваньку чэша, і косу пляце".

Захопленая каханьнем, яна стараецца перамагчы ўсе перашкоды, якія ёй сустракаюцца. Але ў сялянскім быту шмат бывае прычын, якія разрываюць любоўныя адносіны:

—Плакала, рыдала, сьлёзы выцірала
Сваёй русаю касой, праваю рукой.

Дзяўчына, прадбачачы разрыў з любым, робіцца смутнай. Шмат ёсьць песень, у якіх відаць непадробленае гора пакінутае, абманутае жанчыны; усе яны вельмі рознастайныя, і ў іх непадроблены народны лірызм. Мілы „да іншае" ходзіць, кінуў „каморку", у якой стаіць „пасьцель бела-пухава"; яна

—Тую ложу ручанькамі абняла,
Пасьцель белу сьлёзанькамі абліла,
Што на ручках—маленька дзяціна...

Калі і бываюць такія здарэньні, што даволі рэдка, то дзяўчына плача не аб сабе. Лёс дзіцяці, заплямленага яе падзеньнем, разрывае ёй сэрца. Мотыў аб забойстве незаконнанароджанага невядомы беларускім народным песьням. Ёсьць толькі выпадак, калі маці раздумвае, што ёй рабіць з дзіцем:

—Ці мне цябе гадаваці,
Ці ў рацэ пахаваці?..

Але падобныя выпадкі нешчасьлівага канца маладога захапленьня ўсё-ж даволі рэдкія, і часьцей сымпатыя, што ўтварылася ў маладых сэрцах, вядзе да добрага выніку. Праходзіць вясёлая пара „дзявоцтва", бесклапотная вясна жыцьця, калі толькі што пасьпела расьцьвісьці „дзявочая краса", калі толькі „русая каса" вырасла да пояса; надыходзяць хмурныя дні восені, альбо пасьля каляднага мясаеду, калі ходзяць сватаць. І дзяўчаты і хлопцы ўжо зараней „абдумваюць сваё будучае становішча, свой лёс" [1]).

[1]) М. Доўнар-Запольскі. Исследование и статьи, т. І., стар. 160—164.

Спынімся на тым, у якія часы больш усяго адбываюцца вясельлі. Самым звычайным часам для яго лічыцца вясна і восень, прычым восень нават мае перавагу. У Рэчыншчыне і Меншчыне большасьць вясельляў адбываецца ў лютым. У Гомельшчыне вясельлі адбываюцца ў маі ці перад пачаткам жніва [1]). У Віцебшчыне—у вадных мясцовасьцях—звычайна ў кастрычніку і лістападзе [2]), у другіх—зімою.

Важна толькі тое, што ўсюды прызнаецца які-небудзь час асабліва шчасьлівы для вясельля. Выбар гэтага часу падтрымліваецца і тлумачыцца меркаваньнямі экономічнымі. Увосень жэняцца дзеля таго, што сабраны хлеб, зробленыя грошы даюць магчымасьць справіць вясельле. Але веснавыя і зімовыя вясельлі маюць перавагу дзеля таго, што на лета сям'я атрымлівае працаўніка, што для яе зьяўляецца вялікай карысьцю.

Са звычаяў сватаўства зварачае на сябе ўвагу тое, што сваты рэдка гавораць аб мэце свайго прыходу, а звычайна—іначай. У Рэчыншчыне сваты, уваходзячы ў хату, пытаюцца: „Ці ня маеце цялушкі ля продажы?“—„Маема і прадаема“,—адказвае гаспадар, выказваючы гэтым сваю згоду на пачатак папярэдніх перамоў [3]). У ваколіцах Менску, па апісаньні 1880 г. сват казаў гаспадару дома: „Наш бык ды да вашай цялушкі прывык. Каб даў бог даждаць—вашую цялушку да нашага быка загнаць“. У іншых мясцовасьцях мэта сватаўства робіцца яшчэ больш адзначанай. Сват кажа: „У цябе, гаспадару, ёсьць тавар-ледзянец, а ў мяне ёсьць купец-маладзец“ [4]). У Магілеўшчыне бацька выводзіць дачку да свата са словамі: „Добры вечар вам, сваты, вяду вам тавар ні сьляпы, ні храмы, дай бог і мне такі. Даю вам, гавару вам, каб вам ня было абіды на наш тавар [5]).

Пададзеныя толькі што факты даюць магчымасьць прыйсьці да вываду, што само сватаўства ўяўляе сабою адзін з перажыткаў куплі-продажу нявесты. Сваты зьяўляліся ў выглядзе

[1]) Шэйн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Сев.-Зап. края, ч. II. стар. 334.

[2]) Вестник Имп. Руск. Географ. Общества. 1853 г., ч. IX, стар. 23.

[3]) М. Доўнар-Запольскі. Белорусская свадьба и свадебные песни. Киев, 1888, стар. 10.

[4]) Насовіч. Белорусские песни. Записки И. Р. Географ. Общ., т. V, стар. 134.

[5]) Шэйн. Материалы и т. д., ч. II, стар. 295.

купцоў, бо пры існаваньні фактычнае куплі яны сапраўды былі прадстаўнікамі жаніховага роду і павінны былі весьці перамовы аб куплі жонкі для аднаго з іх членаў.

Спынімся яшчэ на адным характэрным акце ў вясельлі— эта сумесная яда маладых. Спачатку сумесная яда і пітво кладалі акт утварэньня згоды паміж дзьвюма асобамі, а потым перавярнулася ў вясельны абрад[1]); у розных народаў гэта зьяўляецца сымболем для ўтварэньня паміж сабою саюзаў, дагавораў[2]). Да гэтага належаць і нашы „магарычы".

Цяпер мы пяройдзем да апісаньня самога вясельнага рытуалу так, як ён падрыхтоўваецца і праводзіцца. Разгляд наш будзе весьціся ў тым парадку, у якім вясельле беларускага селяніна бывае ў сапраўднасьці.

II

У вясельных песьнях беларуса, як ужо гаварылася, адбіліся мотывы і далёкае мінуўшчыны паганства, і, поруч з гэтым, сустракаюцца мотывы сучаснага штодзеннага жыцьця.

Асяродкавымі асобамі, якіх так ці іначай тычыцца большая частка песень—гэта, вядома, маладыя, іх адносіны паміж сабою, да свае сям'і і чужое, іх будучае шчасьце і г. д.

З асаблівым спачуваньнем і ціхім смуткам гавораць песьні аб маладой. Зьбіраючыся да шлюбу „дзявонька росу брала" з зялёнае руты; гэтаю расою яна ўмываецца. Сама яна—„чырвона-бела". У „Шчароўскіх дажынках" Д. Марцінкевіч дае тып беларускай дзяўчыны ў наступных хварбах:

—Кроў з малаком яе шчочкі,
Маланкаю блішчаць вочкі,
З падцішка, бач, як зірне—
Сэрца молатам заб'ецца,
Грудзь полымем абальлецца,
Не спазнаеш сам сябе".

У шмат якіх беларускіх народных песьнях робяцца поэтычныя параўнаньні маладое з пчолкай, хмараю, дожджыкам і інш. Мы пададзім гэтую цікавую вынятку, у якой народная поэзія сабрала ўсе ўлюбёныя звароты, каб ахарактарызаваць маладую:

[1]) Е. Карскі. Белорусы, т. III, стар. 282.

[2]) Кулішэр. Очерки сравнительной этнографии и культуры. стар. 103, 118-119.

—Ды сіяла нявеста, як чорны мак,
Не ўдавалася сьвёкру ў знак,
Ой лесам ішла пчалою,
Пад сяло падышла хмараю,
А ў сяло ўвашла дождьычкам,
На двор усплыла рэчкаю,
А ў сені ўпала шчукаю,
А ў хату ўлезла паваю,
За сталом села паняю,
Аж сьвёкар і не пазнаў,
Да і паняю назваў [1]).

Наогул песьні ахвотна параўноўваюць жанчыну з атмосфэрычнай вадою. Так у ваднэй—„бегла сонца проціў хмары“ і просіць у яе схавацца: так і маладая бяжыць да маці і просіць схаваць яе ад жаніха.

Народная беларуская поэзія дае маладой самыя пяшчотныя параўнаньні. У ваднэй песьні яна параўноўваецца з „кункай“—куніцаю: „ды ехалі-ж мы тым сьледам, дзе наша кунка бегла“.

Маладая дзяўчына „засмуціла“ ўсю сям'ю, падобна да таго, як каліна ўвесь луг „закрасіла“:

—Ой у лузе каліна
Увесь луг закрасіла,
Наша дзеванька ды маладзенька
Увесь род засмуціла [2]).

Каліна ў беларускіх народных песьнях, якія тычацца маладое, зьяўляецца ня толькі простым поэтычным параўнаньнем, але мае сувязь з народнымі поглядамі, якія знаходзяць апраўданьне ў поглядах першабытнага чалавека на прыроду, і наогул, як на ўладарку вышэйшай вытворчай сілы; расьліннасьць, зьяўляючыся сама вынікам вытворчае сілы прыроды, яна ў народным уяўленьні зьяўляецца насіцельніцай гэтай сілы.

Але ня ўсё ўяўляецца маладой і яе блізкім у ружовым сьвеце. Маладая ўвабрана, „як панятка-князятка“, але памылкай было-б думаць, што яна рада таму, што дзеецца наўкол яе. Яна сумная, у сьлязох. Прычына яе гора—невядомае бу-

[1]) Zienkiewicz. Pieśni gminne ludu Pińskiego. Kowno, 1851, стар. 110.
[2]) Булгакоўскі. Пинчуки. С.П.Б. 1892 г., стар. 20.

дучае. Непакой яе даходзіць да таго, што, прыехаўшы ад шлюбу, яна ня можа слоўца прамовіць—„сьлёзкі набягаюць—слоўца не згадаюць". Яе лёгка спазнаць сярод іншых асоб і радні, бо ў яе „на плячох—коска, а на тварыку—сьлёзка; у ручках хустачка—бяз ветру мае, бяз ветру мае—бяз сонца зьзяе".

Невядомасьць будучыны прымушае дзяўчыну даражыць сучасным. Яна баіцца згубіць галоўныя атрыбуты свайго дзявоцтва: дзявочую касу—„усяму роду прыкрасу" і вянок.

Каса—гонар дзяўчыны. Песьні асабліва апяваюць пра русую касу, якая даходзіць да поясу. „Даражы, дзеванька, сваіх кос"—папераджае яе песьня. Пасьля таго, як дзяўчына страціць касу, яна перастае быць дзяўчынай, яна робіцца „маладзіцай", над ёй вісіць цяжкая ўлада мужа.

Плач дзяўчыны аб касе мае глыбока поэтычны характар. Яна плача аб ёй, гаруе, бо каса—дзявочая краса:

—Ды плакала дзеванька па касе,
Ня так-жа яна па касе,
Як па сваёй мацерынай роскашы [1]).

З касою цесна зьвязаны другі атрыбут дзявоцтва—вянок. Песьня запрашае дзяўчыну пайсьці ў сад і вязаць у пучкі руту для вянка.

У песьнях адбіліся імкненьні дзяўчыны не даваць, не дазваляць „коскі рваць", альбо „коскі расплятаць":

—Наехалі купчыкі, дружкі-баяры,
Разьдзялілі косачку ды на дзьве касы,
Абматалі косачку наўкол галавы,
Надзелі на косачку кічку з абручом [2]).

З разуменьнем аб касе цесна злучаецца разуменьне аб прыгожасьці і дзявочай волі. Песьня напамінае дзяўчыне, што яна касу згубіла:

—Каса касою так дудзець—
Палавіна красаты ня будзець [3]).

адказвае яна.

---

1) Ibidem, стар. 101, № 16.
2) Раманаў. Белорусский сборник, I, стар. 346, № 42.
3) Ibidem, стар. 349, № 53.

Касу заплятаюць шоўкам [1]). Са згубай касы дзяўчына губіць і прыгожасьць, і пяшчоту-ласку хатніх, і волю:

—А плач, Таццянка, нямножка табе плакаць,
Толькі ўсяго тры вечары:
Першы вечарок—па касе,
Другі вечарок—па красе,
Трэці вечарок—па незі;
Зьняжывала мяне матунька,
Як вішаньку у саду, як пчолачку у мяду [2]).

Каб выказаць свой сум, дзяўчына распускае касу „па кованаму паясу“ [3]). Каса дзяўчыны—чорны шоўк, кажа песьня, сьлёзы яе—буйны жэмчуг [4]). Што будзе з касою пасьля вясельля? Ці будзе яна гэтакая ў мужа, якая ў бацькі была:

—Каса мая, каса русая,
Ці будзеш такава,
Як у бацькі была?

пытае дзяўчына ў касы: „не, ня будзе ў маладога гэтакая, як у бацькі была“ [5]).

Так гаруе маладая па сваёй касе, гаруе дзеля таго, што з падрэзваньнем і расплятаньнем дзявочае касы злучаецца даўнейшая традыцыя аб былым значэньні гэтага факту. Падстрыжэньне валасоў і расчэсваньне касы ў жанчыны зьяўлялася адзнакаю яе пераходу ў падуладны стан. З цягам часу, калі жанчына выдзялілася з гушчы нявольнікаў, калі яна сама пачала ахоўваць хатні ачаг, яе ўжо больш не пазбаўляюць прыроднага хараства. Пазбаўленьне гэтага хараства ставіла жанчыну ў аднолькавыя ўмовы з нявольнікам. У вясельных-жа абрадах застаўся адзін перажытак бытавога факту ў выглядзе падрэзваньня касы і ў выглядзе перамен у спосабе нашэньня валасоў. Для перамагальніка жанчына зьяўлялася такім-жа пераможным ворагам, як і мужчына. Пераможнага мужчыну ён забіваў, здымаў з яго скальп, адрэзваў нос, руку альбо якую іншую частку цела дзеля задаваленьня свайго гонару перама-

---

1) İbidem, стар. 463, № 126.
2) İbidem, стар. 365, № 112.
3) Янчук. По Минской губ. Стар. 57. № 35.
4) Шэйн. Материалы і г. д. Ч. II, стар. 405. Параўнаньні. Раманаў, стар. 367, № 121.
5) Шэйн. Материалы і г. д., ч. II., стар. 420. № 1.

гальніка, адпускаў ворага часам жывым, але скалечаным. З разьвіцьцём экзогаміі і ўзрастаючым імкненьнем мужчын мець сабе жонку—палонную і нявольніцу, здыманьне з яе скальпа, адрэзваньне носа і г. д. рабілася не карысна. Але ўсё-ж такі пераможныя жанчыны былі ворагам, і перамагальнікі, як трофэй, абразалі і распускалі валасы тым з іх, якія прызначаліся ў жонкі. І сапраўды, мы сустракаемся з распаўсюджаным звычаем, што жанчыны замужнія носяць свае валасы прыкрытымі ці па крайняй меры, ня могуць распускаць іх, што дазваляецца толькі дзяўчатам.

Напомнім пры гэтым некаторыя дробныя рысы абраду. У васнове абраду ляжыць момант прысьвечаньня нявесты боству-вытворцу. Дзеля гэтага нявесту саджаюць на скуру жывёлы, часам якую расьцілаюць у беларускім пасадзе на дзяжы альбо на сяўніку з жытам; сюды належыць і трыманьне нявестаю ў руках хлеба, пакланеньне хлебу (Чэрвеншчына), трыманьне братам маладой у руках пірага (Барысаўшчына). Пірог і хлеб могуць разглядацца і як ахвяра багам, і як самастойны сымболь бостава-вытворцы. Да гэтага-ж культу трэба аднесьці і ўжываньне бярозавае галінкі (Барысаўшчына). Усімі гэтымі сымболямі вытворчасьці стараліся перанесьці на нявесту вытворчую сілу, каб яна ўнесла ў свой новы дом патомства і багацьце.

Пасад маладой прадстаўляецца ў беларускім вясельлі, як прысьведчаньне яе фальлічаскаму боству, яе абкружаюць сымболямі гэтага боства. Ідэя гэта знашла сваё яркае выяўленьне ў рэлігійным гэтэрызьме, дзе маладая раней павінна была належаць богу, а потым толькі—мужу. Апрача гэтага, пасад таксама абкружан атрыбутамі, якія зьвязаны з рэлігіяй хатняга ачагу; ён адбываецца каля самага ачагу (у беларусаў—сядзеньне каля стала і трохразавае абыходжаньне наўкол яго). У некаторых версіях брат становіцца на парозе (Барысаўшчына), маладая і жаніх кланяюцца парогу (Чэрвеншчына), усюды кланяюцца на покуць. У Барысаўшчыне брат ставіць міску з вадою на паліцу каля печы, як-бы ахвяру; тут-жа ён просіць блаславеньня ў прысутных, зварачаецца „к бабкам запечным і дзедкам заплечным“.

III

У той час, як песьні, якія датычацца маладое, шмат займаюцца душэўным яе станам і знадворным выглядам, песьні аб жаніху, наадварот, спыняюцца больш над тымі дзеямі, што

ён робіць са сваёю дружынаю. Песьні гавораць аб жаніху—добрым молайцу; ён прыгожы, але галоўным чынам ён—ваяка, які здабывае сабе дзяўчыну, а здабываньне гэта адбываецца з вялікімі перашкодамі.

Мы праверым некалькі песенных адрыўкаў. У песьнях Віцебшчыны—маці нарадзіла Ванютку „ў нядзельку“ і

—Каля рэчанькі хадзіла,
Зельле-карэньне капала,
І тым Ванютку умывала,
Каб яго урокі ня бралі
Ані вінныя пахмельлі,
Ні цяжкае ўздыханьне,
Ні Ганкіна цалаваньне [1]).

Гэтак ён загартаваны яшчэ з дзяцінства. Вясельныя песьні ўяўляюць сабе жаніха прыгожым, стройным хлапцом. „Хомачка на кані—прыгажэй, чырваней каліны“. Ён „расчасаў рус хахол, пазавіваў кудры маладзецкія“ [2]); ён „беленькі, кудравенькі“; яго „бялюсенька“ ўмывалі сястрыцы, расчосвалі кудры браты. Яго пасылаюць з наказам:

—А і едзь, браце Іванька, ды не бауся,
Скрозь цёмную, скрозь ночушку прабівайся,
І да сваёй Ганулюхны дабівайся [3]).

У зьвязку з тым, што падыходзіць час вясельля, жаніх адпаведна адзеты. Едзе Рыгорка—„а яго шапанька-ярунька і залатая кветанька“ [4]), яго боцікі казловы, у яго панчошкі бялёвыя, у яго падвязкі шаўковыя“,—кажа другая песьня [5]).

Куды ня зьявіцца жаніх—усё сабою асьвятляе: „на двор узьехаў—двор зазьзяў, з каня зьлез—конь зарзаў, у сенікі ўвашоў—шапку зьняў“ [6]).

Песьні часта пяюць аб яго „вежестве“. Вось як уваходзіць ён у дом свайго цесьця:

—Ай вумненькі, разумненькі Паўлютка:
К тешчы на двор васілёчкам сьцелецца,

1) Шэйн. Материалы і г. д., ч. II, стар. 36, № 48.
2) Раманаў. Белорусский сборник, в. I, р. 462, № 125.
3) Шэйн. Белорусские песни, р. 301, № 559.
4) Раманаў. Op. cit., р. 364, № 111.
5) Шэйн. Op. cit., р. 302.
6) Раманаў. Op. cit., р. 356, № 83.

У сені лезіць—гарнушачкам коціцца,
У хату лезіць чырвонаю мятаю,
За столікам саколікам верціцца,
Ля Матрункі блізеханька садзіцца [1]).

Але ўсе гэтыя якасьці зацямняюцца перад апісаньнем жаніха, як ваякі, які ваюе з сваёю дружынаю з цесьцем, здабываючы сабе нявесту. Яскравымі хварбамі малююць гата смаленскія песьні. „Ляксейка ваюіцца—усе людзі дзівуюцца“ [2]).

Ен — „сізы арол“, які зьбіраецца паблытаць „чорны шоўк“—касу нявесты, рассыпаць „буйны жемчуг“—сьлёзы яе [3]). Жаніх зьбіраецца ў незнаёмую краіну на добрым вараным кані, паперадзе яго ляціць сокал, па бакох сябры едуць. „Мяне маладца, ня выдадуць, ды і сужоную мне выведуць“ [4]). Для нявесты ён—„пагубіцель, пагубіць мяне, дзеўку красную“ [5]). „Грозен князь Ягорушка“ пад'яжджае да цесьцевага двара і „стукнець, грохнець ён кап'ем у вароты“ і патрабуе Алёнушку [6]).

Сказана даволі, каб бачыць, што ў беларускіх песьнях (хаця подобныя мотывы агульны дзеля украінскіх і вялікарасійскіх вясельляў) адбіліся перажываньні таго больш раньняга ладу жыцьця, калі ад мужчыны, уступіўшага ва ўзрост палавое дасьпеласьці, патрабавалася, каб раней усяго ён быў ваяка, падобна таму, як гэта паказваюць і звычаі іншых народаў [7]).

Вельмі падрабязна песьні спыняюцца на тым, як зьбіраецца жаніх здабываць сабе нявесту, як ён яе здабывае і іншае. Тут мы сустракаемся з перажываньнямі крадзяжу, умычкі жанчын. Усе народы, паколькі іх гісторыя і быт дасьледаваны навукай, перажывалі, а іншыя, менш разьвітыя перажываюць і цяпер такі момант у сваёй гісторыі, калі жанчына магла зрабіцца жонкаю мужчыны не іначай, як толькі будучы ўкрадзенай ім. Пры больш першабытным стане жанчын кралі адно ў другога варожыя плямёны, робячы пакрадзеных сваімі жонкамі—палоньніцамі. Звычай браць жонку з другога племя, роду (так званая экзогамія. С. Б.) укарэньваецца, робіцца

1) Шэйн. Материалы і г. д.. ч. II, р. 17, № 5.
2) Ibidem, р. 56, № 84.
3) Ibidem, р. 404, № 3.
4) Ibidem, р. 405, № 5.
5) Ibidem, р. 407, № 7.
6) Ibidem, р. 411, № 12.
7) Гл. арт. Ахрымовіча ў „Этнографическом обозрении“ 1892 г.

сьвяшчэнным звычаем. Пляменьні, якія жылі ў згодзе паміж сабою, куплялі адно ў другога жонак, а варожыя—дабывалі сілаю. Звычай крадзяжу да таго ўкараніўся, што потым быў абстаўлен рэлігійнымі цэрэмоніямі (гэта відаць з абрадаў вясельля), зрабіўся, значыць, здабыткам рэлігіі і пачаў практыкавацца нават у тых выпадках, калі наперад адбылася згода паміж жаніхом і бацькамі нявесты.

Для большага посьпеху ў прадпрыемстве—едуць ноччу. Жаніх пасылае наперад „салаўя“ даць вестку аб сабе цесьцю. У рачавістасьці, ня з добрымі думкамі едзе жаніх з дружынаю да свайго будучага цесьця. У даным выпадку дружына фігуруе як „радня“, якая зьбіраецца дапамагчы сябру свайго роду ў задуманай справе.

Сонца і месяц зьяўляюцца спадарожнікамі жаніха. Яму прыходзіцца прайсьці цяжкі шлях. Маці папярэджвае яго, каб ён падкаваў коніка „на чатыры нагі“. Ехаць „прыдзецца борам-карэньнем, полем-краменьнем“.

Хоць дзяўчына даволі часта ведае, што жаніх, які едзе, яе „не жалуе“, гатова лепш утапіцца. А дружына з жаніхом выпіла „мядочку і выезьдзіла, выкруціла ад маці дочку“. Цяпер яе зьбіраюцца весьці да сябе і зрабіць з ёю „што схочама“, зрабіць маладзіцу. Жаніх ня даў нявесьце добра пажыць у бацюхны, ён зьняў вяночак, палажыў намётачку. Але ўжо ўведзеная з бацькаўскае хаты, ужо „ў даліне“, яна „яшчэ выглядае радніну“, як відаць, спадзяючыся на дапамогу. Але радня ня гоніцца, каб вызваліць дзяўчыну.

Калі песьні гавораць аб „родзе, радніне“, то, вядома, уяўленьне іх аб гэтым родзе абмяжоўваецца разуменьнем усяе радні, сваякоў. Усе яны і складаюць род, радню, як разумее народ цяпер. Яснасьці ўяўленьня і строгае абмяжованасьці роду, як ён уяўляецца навукай, ня існуе. Але пададзеная злучнасьць даных амаль што паказвае на тое, што мы тут маем справу з даўнейшым перажываньнем радавога быту. Гэты здогад тым больш праўдападобны, што наогул большасьць вясельных абрадаў, самая організацыя рытуалаў належыць, як відаць, якраз да гэтага пэрыоду чалавечага разьвіцьця [1]).

---

[1]) М. Доўнар-Запольскі. Белорусская свадьба в культурно-рэлигиозных пережитках.

## IV

Далейшая стадыя ў разьвіцьці далейшых абрадаў—купля-продаж дзяўчыны—адбіліся значна слабей у беларускіх народных песьнях. Цікава толькі адзначыць ролю брата ў продажы дзяўчыны. Вядома, што „брат", г. зн. старэйшы шафер-дружка (родны брат ці бліжэйшы сваяк) грае ў вясельным абрадзе значную ролю і ў жаніха, і ў нявесты (у кожнага свой). Гэты „брат" разам з сватам кіруе ўсім рытуалам. У абрадзе, які сымболізуе куплю-продаж маладое, „брат" жаніха купляе яе ў яе „брата".

Брацейка—татарын, ён прадаў „косаньку" за „канчук" (нагайку С. Б.), белы тварык за „шастак", а родную сястру аддаў „так", г. зн. дарам кажа песьня:

—Расплёў братка коску,
Ды размыў-жа мне сьлёзкі,
Да па беламу лічыку,
Па чорнаму нагрудднічку,—

кажа па адрасу брата другая песьня.

Заслугоўвае ўвагі і тое, што ў Беларусі лірычныя песьні прасякнуты варожасьцю ў адносінах паміж братам і сястрой, і там брат зьяўляецца то галоўным віноўнікам няшчасьця дзяўчыны, аддаўшы яе за нялюбімага, то ён мяшае сястры злучыцца з мінулым [1]).

Ужо гаварылася, што поруч з астаткамі радавога быту ў беларускіх вясельных песьнях адбіліся мотывы сучаснага нам жыцьця. Нашым песьням вядомы і такія мотывы, калі жаніх і нявеста адзін для другога былі „мілы" і „мілая".

Нявеста напамінае жаніху: „не залецайся" другою, „не забывайся" дзеванькі. Але яму і забыць цяжка: куды ня пойдзе—яна ў яго „на уме". За стол сядзе—„край яе".

—Вазьму за ручку—цепленька,
К сэрцу прыгарну—міленька [2]).

Яна ходзіць па ляску і „гукае" жаніха: ня бауся, бо ўсё гатова для сустрэчы маладога. Яна выбягае сустракаць яго з „цукрам у паперы і з вінным яблычкам у кішэні". Маладая просіць маладога прыехаць у нядзелю раненька. Але адказвае,

---

1) М. Доўнар-Запольскі. Женская доля в песнях пинчуков, стар. 122.
2) Zienkiewicz. Op. cit.

што ў яе вароты скрыплівыя, бацюхна сварлівы. „Я вароты падчашу, свайго бацюхну папрашу“—кажа маладая. Маладая дзяўчына няпраўду гаварыла: яна і замуж пашла, і жаніха палюбіла. Нявеста знаходзіць уцеху, падтрыманьне ў маладым. „Жаласьлівы“ бацюхна не дае яе супроць ночкі, ды і праваднічка не дае, і дарожкі ня кажа, і сам з ёй ня ідзе. Дзе ёй, маладой, спаць: ці на вадзе, ці ў зялёным гаі, ці ў бацюхны ў каморы. Але яе ўцешвае малады:

—Ня журыся, мая Прысенька,
Ня будзеш начаваці на вадзе,
Ні ў зяленай дубраве,
Ні ў бацюхны у каморы,—
Тай будзеш начаваці
Да на цясовай креваці,
Да на пуховых падушках,
Да на шоўкавых радюшках [1]).

Але нават, калі маладая ідзе да мілага, і ў такіх выпадках яна ня ведае, як прыме яе чужая сям'я. Тым цяжэй яе становішча сярод новае сям'і, калі яна папала туды, як палонная або, калі была куплена. Яна са смуткам, з цяжкім смуткам, часта з дакорам да сваіх, пакідае родную сям'ю і ўступае ў чужую. Мы разгледзім адносіны яе да свае і чужое сям'і. Ізноў такі і тут, як і сярод іншых мотываў, адбіліся больш старыя рысы вясельнага быту поруч з сучаснымі. Нявеста то плача, прашчаючыся з хатнымі, шле ім дакоры за аддачу, прапой яе, то спакойна пасьпяшае да жаніха, зьбіраючы, як можна больш падарункаў, пасагу. Ужо, прыехаўшы са шлюбу, яна ня слуга свайго бацькі,—яна належыць другому—сьвёкру, якога і павінна слухаць. „Дай, дзяўчына, бацюхну вады з дымнага калодзезю, з крыніцы“, кажа песьня:

—Ужо я табе, бацюхна, ня слуга.
Ужо мая вадзіца дарага [2]).

Дзяўчына ўжо сквіталася з роднаю сям'ёю, а ёй цяжка разлучацца з ёю. Яна плача нават па хатніх рэчах, якія пакідае:

---

[1]) Ibidem, стар. 115.
[2]) Ibidem, стар. 112.

—Да ня кур кудача, ня пер'ечка скача,
Маладая дзеванька па кроснах плача [1]).

Але, вядома, жывыя людзі даражэй рэчаў: маці—вельмі блізкая дачцы, яна жахаецца ад думкі аб разлуцы:

—Мая матулька, мая родная,
Разлука мне з табою—[2])

роспаччу кажа маладая пры думцы аб разлуцы з маткаю. Адна песьня робіць мастацкае параўнаньне маладое, што праш-чаецца з маткай, з бярозкаю і гайком. Гай бараніў бярозку ад ветру і дажджу, так і дачка ў маці цяжкае працы не рабіла, толькі скокі вадзіла. Вось гэта песьня:

—Схілілася бяроза
Цераз гору у даліну,
Схілілася Ганначка
Цераз скам'ю матачцы:
Дзякуй табе, дуброванька,
За тваё гадаванейка!
Як я у цябе бывала,
Буйнага дажджу ня відала.
Схілілася Ганначка цераз скам'ю матачцы“ [3]).

Але так ці іначай маладая павінна стаць сябрам новае сям'і; у гэтай сям'і яна з мужам зложыць частку, а потым, быць можа, і сама зробіцца яе галавою. Дзеля гэтага ёй прыходзіцца падумаць і аб сваім дастатку, аб тым, каб ні ад каго ня было „даганы“ (дакору. С. Б.).

Выпраўляючы дачку, маці стараецца абдарыць, па звычаі, усю радню жаніха; маладой няма чаго клапаціцца аб тым, што ня хопіць падарункаў: ёсьць маці—яна і дастане. Яшчэ больш клапоціцца маці, каб налажыць поўны „кубел“ сваёй дачцы. Бацька, у сваю чаргу, дарыць дачцы „чорную карову“. Дачка ня хоча ад яго „ні поля, ні загону, ні мяжы, ні разоры—да хачу-ж я каровы, пуховыя падушкі, шоўкавыя радзюшкі“, кажа песьня.

Гэтак рыхтуецца маладая ў чужую сям'ю. Апошнія мотывы ўжо дышуць сучасным парадкам. Што-ж сустракае яна ў новай сям'і?

1) Ibidem, стар. 116.
2) Ibidem, стар. 118.
3) Ibidem, стар. 121.

У новай сям'і трэба дагаджаць сьвёкру і сьвякрусе. Сьвёкра раяць ёй называць бацькам, для сьвякрухі яна рыхтуе падаркі.

Новая сям'я чакае працаўніка, на якога ўсякі гатоў ускінуць частку свае працы. Вось як будуць прыказваць ёй у новай сям'і:

—Уставай, нявестка, раненька
Ды бяжы па вадзіцу хуценька,
Ды памый ручэнькі беленька.

У сьвёкра „ўсюды роўненька, мне гуляці нявольненька". Чужая маці таксама чакала работніцу. Гэтая новая работніца— „у дым дымаваці, а ў полі—жыта жаці":

—А ў дым—дымаваначку,
А ў полі—работыначку.

Ня весела малююць песьні будучую сям'ю. „Куды цябе бацька аддае? пытае ў маладое песьня: „Ці ў туркі, ці ў татары ці ў турэцкую зямлю ці ў вялікую сям'ю?" Вось як малюецца яе будучы стан у гэтай „турэцкай зямлі":

—Там зямля крамяністая,
Там сям'я наравістая,
Твайго ходу перахаджывацьмуць,
Тваё дзела पералажываць муць [1]).

Гэтымі песьнямі абмяжуемся аб лёсе маладое ў яе будучым доме.

Нам застаецца яшчэ разабрацца ў цэлым шэрагу песень, якія стаяць паасобку ад вышэйпаданых: гэта песьні аб караваі; за імі ідуць песьні, якія пяюцца аб вясельлі чырвонага сонейка з ясным месяцам.

## V

Аднэй з галоўных прыналежнасьцяй усякага вясельля зьяўляецца вясельны хлеб—каравай. Ужываньне яго ведаюць усе расійскія пляменьні. Каравай зьяўляецца, бязумоўна, прыналежнасьцю і старасьвецкіх вясельляў; па крайняй меры, успамінаньне караваю з рознымі прыкрасамі маецца ў апісаньні царскіх вясельляў XVI-XVII ст. У беларусаў пячэньне караваяў злучана з многімі абрадамі, якія носяць на сабе адбітак глыбокае старасьветчыны [2]).

---

[1]) Ibidem, стар. 192.

[2]) Е. Карскі. Белорусы. т. III, стар. 257.

Важнасьці, якую надаюць караваю, г. зн. прысутнасьць у ім боскай сілы, цалкам адпавядае і апісаньню самога хлеба і эпітэтам, якія яму даюць. Яго „гіблюць" (месяць. С. Б.) на скам'і „залатымі пярсьцёнкамі". Звычайны эпітэт караваю— „ясны", другі—„дзіўны". Яго мажуць „дровіным" маслам (ад каровы, якая першы раз ацялілася. С. Б.), за якім бягуць „да новае клеці" ці „да новага месца".

Адна з песень дае выдатнае апісаньне самога караваю:

—Каля аколышачку—шышкі,
Пасярэдзіне—усе зёрначкі,
Зьверху—сыр і масла,
У сярэдзіне—доля і шчасьце [1]).

Шышкі, аб якіх пяе песьня,—гэта зоркі і розныя фігуркі з цеста па краёх караваю. Робяць часьцей усяго птушак: абавязкова пеўня, перапела, потым краскі і іншае, так што нават няжывыя рэчы выказваюць сваё захапленьне, калі ўбачаць гэткі выдатны каравай:

—Лавы дрыгаюць,
Окна мігаюць,
Печка рагоча,
Бо караваю хоча [2]).

Каб прыгатаваць каравай, трэба:

—Трыццаць бочак пшанічнай мукі,
А тры бочкі крынічнай вады,
Сорак коп маладых курэй яец,
І тры паскі дровічных [3]) кароў масла [4]).

Адным словам, калі каравай паставяць на стол, дык ножкі ў стала „пагнуцца, ды людзі караваю дзівяцца [5]).

У песьнях зусім азначана гаворыцца аб тых функцыях, якія прыпісваюцца караваю альбо тэй сіле, сымболем якое ён зьяўляецца. Разгляд гэтых песень не пакідае сумленьня ў тым, што ў каравайным абрадзе мы маем астаткі так званага прыанічнага культу. Адна песьня зварачаецца да караваю з прось-

1) Булгакоўскі. Op. cit., стар. 108.
2) Ю. Крачкоўскі. Быт зап. русского селянина, стар. 40.
3) Утварылася яно графічным шляхам, як відаць, з слова „ялавічных".
4) Шэйн. Материалы і г. д. I, II, стар. 368. № 2.
5) Ibidem, ч. II, стар. 215.

бай аб абароне вясельля: „Злучы, божа, да мае дзеткі“ [1]), а другая, якую пяюць, расчыняючы каравай, робіць яшчэ больш зразумелы намёк:

—Няхай мой кося (конь) па расе паскача,
Няхай маладая Аўдоцьця па касе паплача [2]).

Значэньне караваю характарызуецца цэлым шэрагам песень фальлічнага зьместу, якія складаюць абавязковую частку толькі гэтага абрадавага хлеба, якая прыдаецца яму ў некаторых мясцовасьцях [3]). Сувязь караваю з расьліннасьцю, і асабліва з хлебам, таксама маецца, ёю адзначаюць уплыў караваю на пладавітасьць жанчын. „Да ліку сымболяў сонечнага бога трэба аднесьці і хлеб“ [4]), які адбівае ў сабе веру ў запладняючую сілу.

VI

У беларускай народнай поэзіі, асабліва вясельнай, мы сустракаем значныя астаткі паважаньня месяца і сонца, прычым першы—нязьменна мужчынскага роду, а другое—жаночага. Поруч з гэтым, маладая часам называецца „зоранькай“, параўноўваецца з ёю, так што нашы песьні пяюць аб вясельлі месяца з сонейкам альбо месяца з зоранькай.

У песьні, у якой вясельная дружына напамінае, што пара маладой ехаць да жаніха, што маладая павінна прасіць благаслаўленьня ў бацькоў, суседзяў і—

—У яснага сонца,
У шырокага месяца,
У дробных зорак [5]).

---

[1]) Ibidem, стар. 241.

[2]) Ibidem, стар. 215.

[3]) Каравай часам важыць 20 і болей кілё. На ім запякаюць такі малюнак: стаіць маладая па калена ў каравай і праваю рукою трымае паднятую ўверх спадніцу. Жанік стаіць гэтакім-жа чынам насупроць маладой і ў правай руцэ трымае рэпу. Кругом малюнкі жывёл: кнораз вярхом на сьвіньні, певень на курыцы і г. д. Наўкол гэтых фігур—сонца, месяц і зоркі. Выняўшы каравай з печы, у яго ўтыкаюць дзеравяныя вілы ў аршын велічынёю і пакрываюць яго посьцілкаю. Апрача таго, тут-жа пякуць разам з караваем паасобныя пірагі цыліндрычнай формы (Ibidem, стар. 379, Лашанская вол.).

[4]) А. А. Патэбня. О некоторых символах в славянской народной поэзии, стар. 38.

[5]) Шэйн. Материалы і г. д., ч. II, стар. 145.

Гэтая вынятка цікава паказаньнем, што сонца, месяц і зоркі заклікаюцца благаславіць маладую, як боствы-абаронцы вясельля. Але мала таго, месяц раўняецца з мужчынскай дзейнічаючай асобай. Месяц—бацька маладой, яна:

—У бацюхны ў каморы,
Як у месяца у коле [1]).

Гэтыя параўнаньні важны ў тым напрамку, што тут ясна паказваецца, што месяц прызнаваўся за мужчынскі пачатак. Асаблівую цікавасьць мае сапастаўленьне месяца з жаніхом. Шапка жаніха—„як зорачка ясна“. Маці прыбірала сына:

—Месяцам падперазала,
І зоркай засьцягнула [2]).

Месяц—сам жаніх. Гэта параўнаньне ўпарта падтрымліваецца:

—Ішоў месяц да зоркі,
Ішоў малойчык да дзеўкі [3]).

Такім чынам, параўнаньня месяца з жаніхом адмаўляць нельга.

Цікавы таксама мотыў—гэта вясельле месяца з сонцам, якое завецца часам чырвонай дзяўчынай, альбо вясельле месяца з зоркай. Месячык, падобна жаніху, павінен купіць сабе маладую. Але часьцей ён, як удалы хлапец, здабывае сабе дзяўчыну. Ён не баіцца цесьця і папярэджвае яго аб сваім нападзе:

—Месячык навокала неба ходзіць,
Малады Антоська з Ганнаю за стол заходзіць:
Лісты пісаці ды да цесьця слаці.
Будзь сабе, цесьцю, да не пагняві,
Я ў цябе буду, з тысячу люду,
Да паміж таго люду я сам буду
Не дзеля абеду, не дзеля сьнеданьня,
Але к сваёй Ганначцы на заручэньне [4]).

---

[1]) Zienkiewicz. Op. cit, стар. 80.

[2]) Ibidem, стар. 86.

[3]) P. Bykowski. Pieśni obrzędowe ludu ruskiego z okolic Pińska, bo II t. „Zbioru wiadomości do antropol. krajowej“. Kraków, стар. II, № 2.

[4]) Запісана М. Доўнарам-Запольскім. Исследование и статьи, т. I. стар. 349.

Жаніх уяжджае са сваёю нявестаю ў хату падобна таму, як месяц „узводзіць зораньку“:

—А ўзышоў месячык над ізбою,
А ўзьвёў зораньку за сабою,
Тут табе, зоранька, сьвету ждаць.
А ўзьехаў Іванька к татку на двор,
А ўзьвёў Мар'ечку за сабой,
Тут табе, Мар'ечка, век векаваць [1]).

У гэтай песьні пяецца аб вясельлі месяца з дачкою—зоранькай. Яна пяецца ў пачатку вясельля, г. зн. уласнага вясельля, і зьяўляецца зваротам да месяца і зораньki. У гэтай песьні зорка раўняецца з маладою.

Твар маладое—сонца. У іншым месцы нявеста робіцца падобнай сонцу, так:

—Паглядзі, матунька, у ваконца:
Ужо тваё дзіцятка, як сонца [2]).

Тоесамасьць маладое і сонца зрабіла ўплыў на сувязь яе з „золатам“, якое часта замяняе ў песьнях сонца. Золата „зазьвінела ў шкатулцы“, калі маладая заплакала, яна мяце сені „залатою мятлою“ [3]); прыехаўшы са шлюбу, нявеста „рассыпае золата“ [4]); вельмі часта яна раўняецца з „залатым кубкам“ [5]).

Каб растлумачыць сабе паходжаньне падобнага вераваньня, трэба зьвярнуць увагу на тое, што ўсякая першабытная рэлігія мае ў сваёй аснове абагатварэньне вытворчай сілы прыроды, якая пакарыла першую сьвядомасьць нашага продка і прымусіла яго пакланяцца сабе. Пакланеньне гэта выявілася ў масе розных праяў: у пачытаньні расьліннасьці, вады, агню, жывёл, якія ўвасоблены ў паасобныя боствы, альбо ў непасрэдным пакланеньні. Але і розныя прадметы на зямлі, як жывёлы, зьмена часоў году і г. д., лічыліся беларусам таксама праявамі вытворчай сілы прыроды. Каб растлумачыць сабе паходжаньне ўсяго, ён браў аналёгію ўласнага жыцьця і вакольных жывёл, як людзі і жывёлы ад зносін самца і самкі

[1]) Раманаў. Op. cit., I, стар. 358.
[2]) Zienkiewicz. Op. cit., стар. 54.
[3]) Ibidem, стар. 60.
[4]) Булгакоўскі. Op. cit., стар. 98, № 7.
[5]) Zienkiewicz. Op. cit., стар. 50.

маюць патомства, так і вышэйшыя істоты—месяц і сонца, неба і зямля—робяць вясельлі паміж сабою, робяць усе прыгожыя рэчы ў гэтым сьвеце.

Гэтым і тлумачыцца адбітак у беларускай вясельнай поэзіі мотываў аб месяцы—жаніху і сонцы—маладой. Сярод усіх гэтых перажыткаў пачытаньне гэта вывелася ў пакланеньне хлебу, у песьнях аб вясельлі месяца і сонца.

* * *

Гэтыя невялічкія малюнкі, выхваченыя проста з жыцьця, адбіваюць тую шматлікавую рознастайнасьць беларускага быту, які мы бачым і зараз, але, вядома, не ў такіх формах.

Гэта—бытавыя рысы. Але вясельны рытуал уяўляў, разам з тым, і рэлігійны акт. Земляроб выконвае абрады, якімі ён хоча зьмілasьцівіць боствы, якія дапамагаюць урадлівасьці ў сям'і, у хлебе, у жывёлах і г. д. Ён цесна зьвязан з душамі продкаў і выконвае абрады ў іх гонар. Маладыя з абрадамі і песьнямі абводзяцца наўкол стала, пакланяюцца печы, хатняму ачагу. У гэтых абрадах адбілася пачытаньне продкаў. Маладую саджаюць на пасад, г. зн. на дзяжу, якая пакрыта кажухом шэрсьцю ўверх: гэтым хочуць выпрасіць ад бога багацьця і ўраджайнасьці (у народным уяўленьні калматы—багаты, пладародны. С. Б.). Няма чаго і казаць, што каравайны абрад уяўляе сабою сьвяшчэннадзеяньне аграрнаму боству; каравай ёсьць увасабленьне самога бога, якому пакланяюцца і якога хочуць задобрыць.

Д. Васілеўскі

# Пясьняр вясковага адраджэньня

**(Аб творчасьці Крапівы)**

Мой сьпеў—ня сьпеў, а крык,
Але ў тон
Пад камэртон
Жыцьця
Мой зык. (Асьцё. „Я не пясьняр“).

Поэтычная дзейнасьць Крапівы часамі вызывае спрэчкі. Выхад з друку кожнай новай кнігі Крапівы вызывае розныя ацэнкі яго творчасьці. З прывычнай для нас патрэбай даваць тыя ці іншыя клясыфікацыі—нашы крытыкі то раўналі Крапіву з Дзям'янам Бедным, то палахліва ставілі пытаньні аб ідэолёгічным напрамку яго творчасьці. Большасьць з іх сходзіцца на тым, што Крапіва—сялянскі пясьняр, што ён усімі сваімі каранямі ўзрос на вясковай глебе. Некаторыя крытыкі лічаць Крапіву ідэолёгам сялянства. Кожная такая ацэнка не ахоплівае ўсебакова творчасьць Крапівы і толькі адзначае тую ці іншую рыску яго поэтычнага аблічча.

Крапіва—параджэньне Кастрычніка на вёсцы. Кастрычнікавая рэволюцыя вызваліла сялянства ад векавога прыгнечаньня, сьпіхнула ў вір усіх прыгнятацеляў вёскі, узбурыла вёску да самага соцыяльнага дна і ў полымі грамадзянскай вайны запаліла ўсю шуму мінулага жыцьця. Гэтая вясковая шума і зараз гарыць, тлее, адвальваецца ў нябыцьцё і вядзе змаганьне з усім здаровым, новым, якое ўзнімаецца з-пад попелу, імкнецца, сьледам за комуністычнай партыяй, адрадзіць вёску, пабудаваць новы быт бяз прыгнечаньня, без прыгнятацеля. Вёска распластоўваецца, паступова ўсьведамляе сваю клясавую натуру і вядзе змаганьне са спадчынай цемры. Пласт насельніцтва, які, пад кіраўніцтвам компартыі, змагаўся з панамі і ахоўваў рубяжы працоўнай дзяржавы, зараз зьвярнуўся да мірнай працы і, прасякнуты новым сьветапаглядам, вядзе далейшае змаганьне

з мінулым ладам вёскі і з тымі спадкамі мінулага, якія дасюль яшчэ хаваюцца ў старым быце. На падмогу гэтым змагаром падрастае маладняк-комсамол, выхавалася жанчына-дэлегатка. Змаганьне ідзе праз увесь час—і вось песьняром гэтых змагароў з вясковай цемрай і зьяўляецца Крапіва:

Быў на вёсцы я сягоньня.
Ой, дык што-ж там робіцца—
Ну, паверце, ў самагоне
Скора вёска ўтопіцца. (Крапіва, 25 стар.).

Самагонная брага залівае вёскі ды мястэчкі; неабходны меры, каб выратаваць вёску ад патапленьня. Вёска—цёмны куток сучаснасьці. Неабходны меры асьветы, змаганьне з астаткамі мінулага, і ў вершы „Ў цёмным кутку" Крапіва кліча:

У вёсцы цемра,
Вёска дрэмле,
Сеўшы на загон.
Ёй кіруе,
Ў ёй пануе
Поп да самагон. (Кр. 65 стр).

Карэньні мінулага яшчэ моцны ў быце вёскі, адным рэволюцыйным запалам іх ня зьнішчыш да канца, іх трэба пазбавіць павагі сярод вясковага люду, вышкаліць,—і самая лепшая для гэтага зброя—сатыра. А Крапіва мастацкі арудуе гэтай зброяй. Перад чытачом адзін за другім праходзяць постаці вясковых злыдняў. Для збавеньня ад іх трэба пролетарская мятла, і поэта ўспамінае:

Дзе наша мятла?
Трэба меры—
Шырай дзьверы.
Больш сюды сьвятла.
Тут ад бруду
Трэба ўсюды
Выпратаць куткі,
Каб начніцы,
Каб макрыцы
Здохлі й павукі. (Ibidem, 65 стар.).

Мятла жартаў—злых жартаў—добра праходзіць па ўсіх „начніцах і макрыцах" вёскі. У сваім імкненьні да лепшага ладу, у сваім узважваньні вясковага здабытку, вясковага жыцьця

актывісты перш за ўсё ўпіраецца ў падлегласьць уплывам мінулага быту вёскі, сваіх блізкіх: бацькоў, жонкі. Вясковыя жанчыны, якія менш выходзілі за межы сваіх аколіц, менш разьбіраюцца ў сучасным жыцьці, больш жывуць па „старынцы“, і джгала сатыры Крапівы, сьмехі вясковага актывістага перш за ўсё спыняюцца на асобе жанчыны, якая дасюль яшчэ знаходзіцца пад уплывам вясковых „павукоў“—папоў з іх глумам. Першы зборнік вершаў Крапівы „Асьцё“ дае „цёткам навуку“:

Вось пакута, дык пакута.
Стогне, енчыць цётка Ўліта.

Адпасьціўшы шчыра сем тыдняў, цётка Ўліта на вялікдзень так наелася, што „пакуль мужык прывёў шаптуху, дык Уліта ўжо бяз духу“. (Асьцё, 7 стар.).

А вось верш „Дзьве кумы“. Звычайнае спатканьне дзьвюх вясковых жанчын і паміж іх гутаркі:

Адказвае кума куме.
—Канчына сьвету, кажуць, блізка;
Вось кажуць (чула-ж можа й ты),
Радзіла чорта комуністка,
Ёсьць рогі, хвост і капыты...

Такія плёткі ў 1923 г. хадзілі па вёсках, пужалі даверлівых сялянак і гналі іх у лапы папоў. Цяжка было асіліць простаму разуменьню вяскоўца акружаючае жыцьцё. Сялянкі маліліся:

Пашлі ў царкву маліцца богу,—
Таўкуцца лбамі аб падлогу,
Аж лоб трашчыць—лупцуюць цёткі,
Баяцца згінуць без пары,
А доўгагрывы ў аўтары
Майструе новыя ўжо плёткі,—
Знашоў кудлаты заработкі...

Ад папоў не адставалі і іншыя плеткары, і вёска пужліва прыслухоўвалася да таго, аб чым кругом гаварылі. Вось у вершы „Плеткары“ акрэсьліваецца постаць такіх вясковых плеткароў:

Знае ён усё на сьвеце,
Вестак больш, як у газэце,—
Чуў—ня чуў, а навіну
Скажа вам, ды не адну;

Што і чуў, дык пераверне,
І пашла пісаць губэрня—
Бо даўгі яго язык
К супачынку ня прывык.

Цёмная, прастакаватая вёска жыла чуткамі і плёткамі, якія пушчалі варожыя новаму ладу элемэнты па злосьці, ці проста распаўсюджваліся баўтлівымі асобамі з вясковага жыхарства. „Даўгія языкі“ маюць ня толькі вясковыя жанчыны, а й мужчыны не адстаюць ад жанчын ні ў сварцы, ні ў плётках. Дробнабуржуазная натура сялянства так пабудавана, што ладу на вёсцы, здаецца, ніколі няма; у часы працы мужчыны таксама грызуцца, як і жанчыны. Вось перад намі малюнак вясковага жыцьця—„Дзяльба сенакосу“ (Крапіва, 95 стар.):

Аж дрыжыць сяло ад крыку—
Гэта дзеляць сенакос.
З кулакамі лезуць к носу,
Што ні слова, дык і „маць‘
Ўжо ня трэба й сенакосу,
Дай парэбрыну зламаць.

Другі малюнак жаночае працы—„У сушні“. Тут Крапіва ў сваім разьмеры вершу перадае тэмп працы, і цяжкая праца—мяць лён—робіцца нейкай важнай і прыемнай. Але самы малюнак вясковага быту, характару жанчын цяжкі:

За паклонамі б‘юць церніцы паклон,
За ручайкаю ручайку грызуць лён,
А з-пад церніцы кастрыца так, як сьнег—
Трэплюць бабы языкамі дык аж сьмех,
Перабралі ўжо ўсю вёску дзесяць раз...
Так у сушні ў нас вядзецца век вяком—
Там найболей бабы трэплюць языком
І пакуль натрэ дзесятак які льну,
Дык абрэша дзесяць раз адна адну (Іb., 118).

Сваркі—звычайная праява цемры беларускага жыцьця.

Верш „Год“ Сьцяпана Лайдака абмалёўвае лёс слабавольнага селяніна-беларуса, падпаўшага пад уладу старых звычак к самагону. Гэты „клясавы вораг“ цягнецца за селянінам ад калыскі да магілкі. Нават, калі вёска весяліцца, то і ў гэтым вясельлі няма нічога радаснага. Вось малюнак вясковага „ігрышча“:

А людзей дык поўна хата,—
Так, як дзьверы зачыніць.
У яе, бач, грышча сёньня,
Дык зышлася вёска ўся...

Але вясельле зусім не вясёлае, і школа зусім дрэнная:

Гоман, крык стаіць вялікі,
Сьмех дзяўчат і дзяцюкоў,
Падчас лаянка і дзікі
Град адборных мацюкоў.

Што можа быць добрага ад такіх забаў? І Крапіва зварачвае ўвагу чытача на агульнабеларускі недахоп—адсутнасьць лазьні:

Беларусь па вушы гразьне,
Але ў вёсках Беларусі
Днём з агнём ніводнай лазьні
Не знашоў-бы нават, мусіць,
Ад Барысава да Слуцку.

У гразі мруць дзеці, „то пладзі, то кладзі“, і вёска па цяшаецца што „бог узяў“. Гэтаму мору памагаюць і знахары якія лечаць так, што:

Выпіў Янка й фур за браму
Зразу к праайцу Аўраму,
У нябеснае ён царства
Надта добрае лякарства...

Папы таксама стараюцца скарыстаць вясковую цемру і пажывіцца з цёмнага селяніна. Такім чынам, вёска ў апісаньні Крапівы выглядае надта сумна. У старой вёсцы не знаходзіцца ніводнага сьветлага кутка, усюды цемра, усюды нейкая рассыпчатасьць; пабудаваная на ўласнасьці ідэолёгія вяскоўца дае сябе адчуваць: ні цьвёрдасьці, ні дружнасьці. Такія сумныя малюнкі старога вясковага быту сьведчаць аб тым, што Крапіва ўзважвае жыцьцё гэтай вёскі не на вясковым бязьмене, а ў рыскай дзесяцічнай важніцы—пролетарскай ідэолёгіі, і, такім чынам, ніяк ня можна лічыць Крапіву за ідэолёга сялянства і вёскі агульна. У старой вёсцы ён не знаходзіць нічога сьветлага і паказвае, што на шляху старога яе быту няма збавеньня. І прасякнутая марксыцкай ідэолёгіяй частка новай вёскі набывае сталёвую ўпартасьць, трываласьць моноліту. У вершах

Крапівы пакуль што паказана толькі першая паласа жыцьця новай вёскі. Такія вершы, як „Ціт заводзіць новы быт“, „Ты ня лайся, дзядзя, пры Савецкай уладзе“, паказваюць першыя расткі новай вёскі, а верш „Рагуліна прамова да свайго гаспадара“—першую вясну новае гаспадаркі. І ў сьпяваньні вясны беларускай вёскі—комсамолу, сялянскага актыву—галоўная сіла Крапівы. Яго апавяданьні паказваюць ажыцьцёўленасьць вясковай вясны:

„Чырвоная вясна павяла рашучы наступ. Белая зіма здае свае позыцыі на ўсім фронце, толькі дзе-ні-дзе, у самых глухіх закутках, замацаваліся яе белыя атрады, але й тыя, бачачы нямінучую сваю пагібель, праліваюць раўчакі сьлёз“.

(Апавяданьні „Вясна“).

Вясковая моладзь у комсамоле набывае гарт, сталёвую ўпартасьць барацьбіта, а сілы багата,—нястрачаныя, сьвежыя, якія дагэтуль танулі ў балоце самагону, зараз зварачваюцца на барацьбу з вясковай цемрай. І вершы Крапівы аб комсамоле—яго лепшыя вершы. Вось хоць-бы: „Комсамольскія частушкі“:

Нас ня любяць, нас баяцца
Поп кудлаты і кулак,
Бо рашыў за працу ўзяцца
Комсамольскі маладняк...
Пройдзем мы з чырвоным сьцягам
Па ўсім сьвеце з краю ў край—
Або мёртвымі палягам,
Або ўсюды зробім рай.

Паўната сіл выклікае імкненьне адразу зьнішчыць усе спадкі мінулага. Вясковы комсамол гатоў забрацца на неба. („Дабяромся і да неба“), каб і адтуль скінуць усё дрэннае, што дагэтуль прыгнятала вёску, і ўжо прыгнятацелі праліваюць „раўчакі сьлёз“. Вось хоць-бы такі малюнак:

У аўтары поп сядзіць—
Сьлёзы коцяцца;
У царкву людзям хадзіць
Больш ня хочацца.

Прасякнутая духам барацьбы маладая вёска, вясковы актыў, набывае такую моц, ад якой разьлятаюцца векавыя прыгнятацелі, як павуціна. Гэтую магутнасьць новай вёскі ў

першаю чаргу добра адведалі паны, у якіх „ад пачосткі ныюць косткі“:

Папужаліся паны,
Заблішчэлі пяткі,
Паскідалі жупаны,
Пагублялі гаткі.

Павольна вёска выходзіць на новую сьцежку гаспадараньня, вызваляецца ад звычайных забабонаў і на ўзмацнёным дабрабыце ўжо імкнецца да пролетарскай культуры.

З боку мастацкага, творчасьць Крапівы вызначаецца надзвычайнай яскравасьцю. Вёска, як жывая, паўстае з яго вершаў і апавяданьняў. У яго апавяданьнях вясковыя вобразы паўстаюць, як вылітыя, з нейкай скульптурнай чоткасьцю. Два-тры словы—і вобраз гатоў. Вось хоць-бы ўзяць апавяданьне „На пасёлкі“. Фігура ўдавы Сталярыхі: „Зачырванеўшыся, раструханая, наперад праціснулася ўдава Сталярыха. Старшыня, братка, саколік, даражэнькі. Не пайду я на гэтыя пасёлкі. Забі, зарэж, застрэль, дык усё роўна не пайду“. Вось фігура вясковага гарманістага з вершу „Грышча“:

Сьцёпка ціскае гармонік,
Той пішчыць, як парася.

Вясковы чытач проста бачыць перад сабой гэтага Сьцёпку, здаецца, чуеш піск гармоніка. Або ўзяць вясковага папа з апавяданьня „Споведзь“. Жывая фігура.

Жыцьцё гораду, шпаркае, працоўнае, пакуль што слаба адбілася ў творах Крапівы. Да гэтага часу ён пераважна працаваў на вёсцы і па якасьці свайго таленту ён зварачвае ўвагу толькі на нясуразныя бакі гэтай працы, якія падлягаюць сатыры. Гэта зусім ня можа сьведчыць аб тым, што ён ня любіць гораду ці ня ведае яго вялікай працы па пабудове новага жыцьця. Пакуль што ў жыцьці гораду абстрыканы Крапівой піўныя, трэк і менскі сквер. Не-пролетарская частка гораду толькі і дала матэрыял для яго сатыры. Апошняе выданьне твораў Крапівы, яго „Біблія“, сьведчыць аб разгортваньні яго таленту. Уплыў „Маладняка“ надта карысна адбіўся на поэтычнай постаці Крапівы. Без „Маладняка“ маладая вёска зусім-бы ня ведала свайго больш чытаемага пісьменьніка.

Многа спрэчак вядзецца аб месцы Крапівы ў беларускай літаратуры. Часам яго раўняюць з расійскімі пісьменьнікамі,

але здольнасьці Крапівы ня могуць раўняцца з пісьменьнікамі сучаснае РСФСР. У Крапівы ёсьць сваё, уласьцівае, якое троху раўняе яго з пісьменьнікамі эпохі адраджэньня Эўропы. На ліцо ўсе задаткі ў Крапівы, каб стаць беларускім Бокачыо. З Бокачыо радніць Крапіву ня толькі аблюбованасьць „сьлізкіх сюжэтаў“, меткасьць моцнага народнага слоўца, якое часам называе рэч сваімі йменамі, вышкельваньне папоў і сьвятых. Новая кляса вышла да дыктатуры. Яна выказвае свае думкі за думкі працоўнага ўсяго народу, і неабходна разьвеяць павагу і веру ў сьвятасьць таго, на чым трымаўся скінуты лад. У эпоху адраджэньня XVI веку гэта рабілі гуманістыя, у нашых умовах такую працу праводзіць „Маладняк“.

Але каб стаць беларускім Бокачыо, Крапіве трэба працаваць над сабой доўга, упарта. Некаторыя вершы яго „Бібліі“ носяць сьляды сьпешнай працы, ня вытрыманы па форме. Прабіваецца часамі не дасканалая акрэсьленасьць і з боку ідэолёгічнага, аб чым ужо ня раз пісалася ў газэтах. Але моцная жыцьцёвая школа здолее паставіць Крапіву на належнае месца беларускай літаратуры.

„Біблія“ Крапівы самая цікавая кніжка з антырэлігійных выданьняў на беларускай мове. Струхнелая і збуцьвелая сьвятасьць у руках Крапівы падымае такі слуп пылу і паказвае такія новыя факты, што чытачу застаецца толькі рагатаць і дзівавацца, як да гэтага часу людзі ня бачылі ўсёй бязглуздзіцы сьвяшчэннага пісаньня. Вядомы ўсім з маленства падзеі кнігі „Быція“ ўстаюць у беларускай вопратцы, так запэцкаўшыся, што з іх ня можна не сьмяяцца. У кожным разьдзеле „Бібліі“ пасьля вялікага рогату над вясёлымі сьвятымі, пясьняр ставіць некалькі пытаньняў для разважаньняў чытача. І гэтыя пытаньні крок за крокам разьбіваюць сьвяшчэннае пісаньне. Так, расказаўшы слоў пару пра Іуду і Фамару, Крапіва зазначае:

Вось я кончыў аб Іудзе,
А цяпер вы, калі ласка,
Паглядзеце самі людзі,
Што нам кажа гэта казка
І што ё ў пляткарстве тым,
Каб лічылі мы сьвятым.

Крок за крокам Крапіва прымушае свайго чытача паслухаць казкі аб падзеях сьвятых праатцаў. І ў яго гутарцы гэтыя

праатцы набываюць нейкае знаёмае аблічча гэрояў першапачатковага накапленьня. Патрыярх Якаў надта добра паходзіць на вясковага кулака і папа, які ўвесь час толькі дбае аб тым, як засунуць у сваю кішэню тое, што з крайку ляжыць. І нагул, усе патрыярхі і сам Элогім сталі падобны на вядомыя ўжо раней тыпы вясковых эксплёататараў. У гэтым мясцовым адзеньні сьвятыя робяцца больш знаёмымі і сьмешнымі.

# Кнігапіс

**Цішка Гартны. „Сокі цаліны“.** *Раман у трох квадрах. II. „На перагібе“. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск, 1926 г. Стар. 328. Цана 2 р.*

„Сокі цаліны“—пакуль што першы і адзіны ў беларускай літаратуры раман. Разьлічан ён, як відаць па першых дзьвюх квадрах, на аркушаў 50—60 і задуман шырока. Гэта цэлая эпоха. Таму і нельга чакаць ад кароткага агляду, ды пры тым агляду незаконачанага раману, поўнасьці і дакладнасьці. Можна толькі канстатаваць факты.

Аб першай частцы раману „Бацькава воля“ пісьменьнік Гарэцкі М. у сваёй працы „Гісторыя беларускае літаратуры“ (выд. 3-яе) адазваўся так: „Раман хоць і заняў ужо паўтараста вялікіх старонах дробнага друку, яшчэ толькі-толькі ўвёў нас у самы вузел падзей...“ Тое самае можна сказать і аб другой квадры, бо і ў ёй падзеі ўсё яшчэ, бы тая нітка, намотваюцца на клубок. Да размотваньня яшчэ далёка. Перад чытачом толькі пачынае абмалёўвацца галоўны дзеяч раману—рабочая кляса. А яна ўжо тут адваявала сабе месца ад Сілцоў. Калі першая частка цалком сілцоўская, то другая распалася на сілцоўскую і гарадзкую (заводзкую). У ёй ужо зьяўляюцца адна за аднэй, а хутчэй раптам, фігуры барацьбітоў рэволюцыі, усе гэтыя Міхасі Камары, Артуры, Мурмелі ды Натальлі з іх сьвядомасьцю „мы паперш усяго таварышы“. Праўда, для Сілцоў вузел у мотыве Рыгор—Зося ўжо завязаўся. Зося не пайшла супроць „бацькавай волі“ і трапіла за Васіля. Але што з гэтага будзе ў III квадры, калі вёска будзе рушыць у новы век, яшчэ невядома. Да таго-ж цэнтр раману не ў каханьні і ня ў побыце, а ў рэволюцыйнай барацьбе. Яна-ж толькі пачалася з II квадры (арышты сярод сілцоўскай арганізацыі, забастоўка ў Рызе, ды арышты рыскага актыву).

Рыгор (Зося—Ганна—Наталя) гэта пакуль што, ды мабыць ужо і да канца, уток і аснова раману, а больш правільна навой яго, на які намотваюцца падзеі. Але гэрояў яшчэ ня відаць, хоць пісьменьнік і групуе ўсё каля Рыгора, высоўвае яго наперад. У другой квадры пачаў вызначацца завод з яго жывой сілай—рабочай клясай. Гэта яна і праца на заводзе давяла думку Рыгора Нязвычнага да сьвядомасьці, што „толькі ў рашучым выступленьні—перасьцярога наглай заўзятасьці ворага“. Гэроя—асобы няма, значыцца. Няма яшчэ і гэроя—колектыву: болей са слоў пісьменьніка, чым з ходу здарэньняў

вызначаецца завод з яго сілай—адзіны лёгічны, пасьля вёскі, гэрой для роману, але нельга сказаць, каб вельмі яскравы. Стары ўрад пераладзіў актыў у горадзе, намацаў яго ў Сілцох, зацягнуў пятлю навокал яго шыі. Яскравасьці, барацьбы, віхуры натуральна трэба чакаць ад трэцяй (апошняй) квадры.

Што тычыцца апісаньня Сілцоў, то яно ўдалося пісьменьніку лепей, чым апісаньне гораду. Сілцы—мястэчка. Але жыцьцё Сілцоў—жыцьцё кожнай беларускай вёскі. У гэтым іх тыповасьць, ды сапраўды ў кожнай вёсцы, як у Сілцох, ёсьць свае Берагі, свае Прыдатныя, свае Стэпы, Сафроны, Бізуны ды Загоны. „Ёсьць такіх многа“. Ёсьць і дзеці: Васілі, Рыгоры, Сёмкі, Волькі ды Зосі. Доля Прыдатных ды Берагоў лепшай ня трэба: „каму-ж ня жыць, як ня ім: зямлі процьма, хлеба па горла, грошы не пералічыць... Кумаўство з начальствам, з папом. Другія на іх падрабляюць“. Доля другіх: „цярпець прывыклі ў сваім жыцьці да гэтага. Можна сказаць, што вывучыліся гэтаму. Працуй і цярпі...“ і „ні каліва палёгкі“. Ды нават гэтаму мусяць радавацца, бо праз гэта можна „дастаць сабе патрэбны кавалачак хлеба“. Доля дзяцей—доля іх бацькоў. Але гэта правільна толькі для дзяцей Берагоў. Дзеці-ж Бізуноў, Загонаў ды Стэпаў „спрабуюць пярэчыць няпраўдзе“. Іх на гэта благаслаўляюць бацькі: „няхай-жа дзеці за гэта бяруцца, у іх больш сілы і больш запалу...“

У романе перад чытачом праходзяць тыпы беларускіх дзяўчын і кабет. Зося з яе адвага і потым пакорай (уцёкі у прочкі да бацькоў—хутчэй за ўсё часовае зьявішча), надзвычайна рэальны тып. Яна, адна яна з усіх асоб роману, калі паставіць побач з ёю Рыгора,—засланяе яго. Рыгор побач з ёю шэранькая асоба. Зося—жанчына і ня тургенеўская і не некрасаўская. Постаць яе дамалюецца, як відаць, посьле Кастрычніка. Гэта і не Гарнова ў будучыне, а хутчэй „дзіўная“—Шумава. Побач з ёю выводзіцца інтэлігентка—Ганна ды работніца—Наталя, і ўсе тры яны ўплецены ў адзін вузел з Рыгорам.

Роман дужа расьцягнуты, як і само жыцьцё, затое вызначаецца эпічнасьцю і падымае вагу беларускага мастацкага слова.

**Б.**

**Летапіс беларускага друку.** *Бібліографічны бюлетэнь беларускай кніжнай палаты пры беларускай дзяржаўнай і унівэрсытэцкай бібліотэцы. Менск, № 1—6 за 1925 г., № 1-2 за 1926 г.*

Шырокае разьвіцьцё беларускае літаратуры ў апошнія гады будаўніцтва беларускае дзяржаўнасьці востра паставіла пытаньне аб выданьні бібліографічнай часопісі, якая рэгістравала-б усе выданьні, выходзячыя на тэрыторыі нашае Рэспублікі.

Такая часопісь патрэбна як спэцыялістым, працуючым у тых ці іншых галінах навукі, так і наогул шырокім колам нашага савецкага чытача, бо ён дапама-

гае орыентавацца ў выходзячай літаратуры, паказвае дзе, што, якога зьместу і ў якой колькасьці выдрукавана.

Вышаўшыя першыя дзьве кніжкі „Летапісу“ даюць прадстаўленьні аб літаратурных, навуковых, мастацкіх, грамадзянскіх, публіцыстычных плынях Савецкай Беларусі за мінулы 1925 г. і за першых чатыры месяцы бягучага году. Чамусьці частка выданьняў, 34 назовы, вышаўшая ў 1925 г. ня зьмешчана ў „Летапісу“ за гэты год, а папалі ў „Летапіс“ за 1926 г. Ёсьць і недахопы: так у вабедзьвюх кніжках „Летапісу“ адсутнічае, напр., праца С. Некрашэвіча: „Да пытаньня аб укладаньні слоўніка жывой беларускай мовы“, выдадзеная ў Менску ў 1925 г.

Мінулы год даў нам наступныя лічбы: выдрукавана літаратуры на беларускай мове на ўсім абшары Сав. Беларусі— 197 назоў, на расійскай мове— 172 назовы, на гэбрэйскай мове—20 назоў і на польскай мове—13 назоў. Апрача адзначанага, выходзіла 38 часопісяй (з іх 24—на расійскай мове, 11—на беларускай, 2—на гэбрэйскай і 1—на украінскай - для Украіны) і 27 газэт (з іх 12—на расійскай мове, 10 — беларускіх, з іх большасьць на беларускай і расійскай мовах, 3—на гэбрэйскай і 2—на польскай).

Першых чатыры месяцы бягучага году далі 101 выданьне, з якіх на беларускай мове 56 назоў, на расійскай—40, на гэбрэйскай—3 і на польскай—2.

Паводлуг характару выдадзенага большасьць займае папулярныя кнігі і брошуры па грамадзянскіх і прыкладных навуках і па прыгожаму пісьменству.

Наогул кажучы, бібліографія выдадзена старанна з заховай усіх бібліографічных правіл і законаў, крыху наблутана толькі ў паказчыках, якія маюць значную справачную ролю, бо пры іх прысутнасьці лёгка знайсьці патрэбнае. Так напр., у ваддзеле: „Быт. Фольклёр“, які носіць этнографічны характар, знаходзім літаратуру па профэсыянальнаму руху; у ваддзеле „Мовазнаўства“—знаходзім апавяданьні Тараса Гушчы і некаторыя школьныя падручнікі, ня маючыя датычэньня да гэтага аддзелу; у ваддзеле „Музыка, Ноты“—унесены вершы Александровіча, а музыка сапраўдная (напр., № 19, Аладаў) ня ўнесена; відаць некаторая пасьпешнасьць пры выданьні, так, напр. творы композытара М. Аладава чамусьці раскіданы па ўсёй кніжцы (гл. №№ 19, 32, 132), між тым як яны павінны былі йсьці першымі нумарамі. Да і ў паказчыку М. Аладаў значыцца не аўтарам сваіх уласных твораў, а толькі „сааўтарам“. Цікава, чаму дзяржаўная бібліотэка дала яму такое паніжэньне?

Адзначаныя недахопы зусім ня маюць мэты ўмаленьня значнасьці і каштоўнасьці новай беларускай часопісі—яны адзначаюцца выключна, як вынікі пасьпешнай працы асоб перагружаных службовымі абавязкамі.

Прывітаючы новае выданьне дазваляем сабе выказаць наступныя пажаданьні:

1) уключаць у „Летапіс“ беларускі замежны друк, каб выданьне, такім чынам, абхоплівала ўсе плыні беларускага друку, што вельмі важна для рознага роду дасьледчыкаў, 2) выдаць сьпіс беларускіх выданьняў да 1925 году, 3) пад назовамі часопісяй даваць іх зьмест альбо зьмест часопісяй і газэт даваць у канцы году ў асобным выпуску „Летапісу“.

**Ал. Шлюбскі.**

**М. Нікановіч. Радасьць.** *Апавяданьні. Дзяржаўнае Выдав. Бел. Менск, 1926 г. 57 старонак. Цана 25 к.*

Зборнік апавяданьняў „Радасьць“ досыць орыгінальны. Чыстая, простая вокладка адпавядае чыстай радасьці ў зьмесьце ад вельмі простых звычайных зьявішч новага жыцьця, новай шчасьлівай эры, на шляху да сусьветнай роўнасьці і брацтва. Гэта зборнік апавяданьняў, дзе зьмест пазбыўся тугі выключна, дзе жыватворчай крыніцай б‘е радасьць, радасьць і радасьць. Ды не абы якая радасьць, а радасьць нястрымная. Радасьць вясновая у песьнях дзяўчыны, радасьць сьвяточна - першамайская, радасьць вёскі саламяна-лахудрай і наогул радасьць жыцьця ў новым здаровым быту, які нарадзіўся ў маланках пяруновых з Вялікім Кастрычнікам.

Зборнік уключае ў сябе чатыры апавяданьні, з якіх першыя тры амаль зусім бясфабульныя і зьяўляюцца малюнкамі кавалачкаў быту з невялічкімі прыгожымі малюнкамі прыроды і з выказваньнем шчырага вясёлага прагненьня да працы. Гэта яскравыя малюнкі шчасьлівых вясёлых хвілін жыцьця чалавека, і апавяданьні былі-б вельмі прыгожымі, каб у некаторых мясцох ня біла праз верх лішняя штучнасьць ды яшчэ з агітацыйным ухілам. Як прыклад, можна прывесьці месца з апавяданьня „Песьня вясны“, дзе малады хлапец, прыбегшы вечарам пад полаг разложыстай ліпы, каб пабачыць ды прыгарнуць да сэрца любую дзяўчыну, зразу-ж пачынае агітаваць: „Выганем бога старога за дзьверы, чырвонаю хусткаю вымецем“.

Больш сталае, больш грунтоўнае і больш каштоўнае чацьвертае апавяданьне — „Радасьць“. Апавяданьне „Радасьць“ па сваёй агульнай композыцыі, па свайму сужэту, фабуле і па сваёй ідэолёгічнай вартасьці шмат каштоўней першых трох. Каштоўней яно ўжо затым, што там неяк больш натуральнасьці (і менш штучнасьці) у зьмесьце і няма ніякіх шурпаватасьцяй у адчуваньні.

Вельмі цікавая ў гэтым апавяданьні разьвязка, дзе ўжо і старая маці, хоць праз вялікі гвалт, згаджаецца з поглядам маладых. Ніколі чытач не спадзяецца і не чакае такой мірнай разьвязкі, калі бацька даведаецца, што яго дачка з жаніхом ня бралі шлюбу ў папа, а зьезьдзілі ў сельсавет, у дадатак-жа аб‘ехалі каля куста і вярнуліся назад. Здаецца, што кончыцца бурай, трагэдыяй, а кончылася мірна з радасьцяй і шчасьцем.

З формальнага боку можна сказаць наступнае: М. Нікановіч вельмі добра ўладае беларускаю

мовою, як пісьменьнік, і пры тым яго мова вельмі прыгожая. У стылю-ж трэба адкрэсьліць плаўную гармонічнасьць, а разам з тым і дынамічнасьць з нейкім хваляваньнем (пераход ад дынамікі і бурнасьці да мяккай плаўнасьці). Гэта, мабыць, нястрыманая радасьць поэты гойдаецца на мэлёдычных гуках перабору струн яго гусьляй. Яшчэ, як самая важная адзнака і характэрнасьць стылю, гэта яго вобразнасьць. Ні адна амаль думка ня выказана простымі звычайнымі словамі людзкой гутаркі, а кругом мэтафоры, параўнаньні і г. д. Большасьць з іх вельмі ўдалыя, але ёсьць крыху і часта ўжываных, ужо зацяганых, зусім няцікавых.

Але гэтыя недахопы нязначныя, іх саусім мала, і зборнік чытаецца з вялікай цікавасьцю.

**Я. Шчасны.**

**„Наш Край“ № 4-5 (7-8), красавік—травень 1926 г.** *Штомесячнік Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускай Культуры. Стар. 102. Цана 70 к.*

Значэньне краязнаўчае справы ў савецкім будаўніцтве было выразна адзначана ў пастановах першага Усебеларускага Краязнаўчага Зьезду,—што, побач з вывучэньнем фольклёру ды гісторыі свайго раёну, нашыя краязнаўчыя таварыствы ды гурткі ўсё ў большай меры займаюцца абсьледваньнем прыродных вытворчых сіл свайго раёну, вывучэньнем тэхнікі сялянскага земляробства, мясцовых промыслаў і наогул мясцовай экономічнай сытуацыі.

Зьездам таксама было адмечана, што краязнаўчы рух на Беларусі ўсё больш і больш захоплівае вялікія колы грамадзян. Ім цікавяцца ўсе, каму дорага наша краіна, і на вывучэньне якой, на яе мінулае і сучаснае, імі траціцца час.

Цяпер паглядзім, як адбіваецца становішча гэтага руху ў часопісі „Наш Край“.

Па свайму зьместу часопісь падзяляецца на гэткія аддзелы: 1) агульна-навуковы, 2) матэрыял з месц і 3) програмы, анкеты і інструкцыі.

У першым аддзеле мы знаходзім значныя дасягненьні ў галіне навуковага дасьледваньня нашай бацькаўшчыны. Артыкул проф. В. Перэхода—„Да характарыстыкі сасновых дрэвастанаў Бабруйшчыны“, дае малюнак дасягненьняў лесаэкономічнага габінэту Беларускай С.-Г. Акадэміі, якім было праведзена вывучэньне тыпаў сасновых лясоў з боку іх таксацыйнасьці. Значэньне лясоў ў экономіцы нашае краіны—вялізарнае.

Другі арт., як напр., І Сосіса — „Соцыяльны і культурны стан яўрэяў у Літве і Беларусі перад эпохай падзелаў Польшчы“; у ім даецца кароткі, сьціслы, пераважна экономічны нарыс жыцьця яўрэяў.

Яўрэі, якія зьявіліся на тэрыторыю Літвы і Беларусі, займаліся дробным гандлем у гарадох і мястэчках, там, дзе ім былі адведзены асобныя вуліцы. Пачынаецца організацыя яўрэйскіх рамесьніцкіх цэхаў, адбываецца конкурэнцыя паміж хрысьціянскімі рамесьніцкімі цэ-

хамі; апошнія, праз магістрат перад каралеўскай уладай ў XVII ст., дабіваюцца зьмяншэньня праў яўрэяў.

Даецца агляд дзейнасьці яўрэйскіх арандатараў, якія вялі гуртовы гандаль з замежнымі дзяржавамі і гэтым паляпшалі дабрабыт шляхты.

Вельмі павярхоўна апісваецца ўнутраное жыцьцё яўрэйскіх кагалаў. Амаль што нічога не ўпамінаецца аб агульна-літоўскіх і акруговых—*ваадах*.

Што тычыцца юрыдычнага жыцьця літоўска-беларускіх яўрэяў, то аўтар нават не ўпамінае аб такім факце, які быў ў 1507 годзе, калі Сігізмунд I падцьвердзіў старыя прывілеі яўрэяў, якія былі нават занесены ў Літоўскі статут 1529 году.

Артыкулы М. Зьбіткоўскага „Аб зборы лекавых траў", і О. Палянскай — „Беларускія жоўтазелі (Genista)" гавораць аб тым, якую ў навуковай і народнай мэдыцыне маюць каштоўнасьць і карысьць травы тыя, што растуць на беларускіх палёх, сенажацях, балотах і ў лясох.

У ваддзеле „Матэрыялы з месц" мы знаходзім досьць цікавыя артыкулы, як напр.: „Чырвона-Зорская паперня і яе праца", „Буеўскае возера", „Археолёгі павінны зьвярнуць увагу", „Каменныя валы", і М. Грамыка — „Па ўсходніх раёнах БССР" і шмат інш. Назвы вышэйпамянёных артыкулаў даюць абразкі асобных рэчаў, якія раскіданы па Беларусі і якія чакаюць яшчэ свайго дасьледчыка.

У вапошнім аддзеле мы знаходзім гэткія інструкцыі, як „Інструкцыя для запаўненьня анкеты аб хатніх рамёствах", „Do ludności polskiej na Białorusi" і інш., усе яны маюць вялікую каштоўнасьць для гурткоў і асоб, якія займаюцца працай па краязнаўству.

Часопісь заканчваецца бібліографіяй па археолёгіі Магілеўшчыны.

Да недахопаў можна аднесьці тэхнічныя нядбайнасьці; так, на стар. 14 часопісі чытаем: „у самым канцы VIII сталецьця, пасьля другога і трэцяга падзелу Польшчы" (?); нам не вядома, аб якім падзелу Польшчы ідзе гутарка, можа аб гэтым падзеле вядома толькі аўтару і рэдакцыі, можа яны знашлі новыя крыніцы, то трэба было зрабіць зноску дзе гэта ўзята. Тэхнічныя недагляды ёсьць і на стар. 16 і на другіх.

У наступных нумарох добра было-б, каб былі даны артыкулы аб школьным краязнаўстве, аб працы дасьледчых экспэдыцый, якія праводзіліся ў працягу гэтага году сэкцыямі Інбелкульту, аб дзейнасьці дзяржаўных музэяў, дасьледчых станцыях і інш.

Пажадана больш пашырыць бібліографію па краязнаўству і даваць водзывы аб выданьнях, якія выпускаюць акруговыя краязнаўчыя таварысты, як, напр.: „Віцебшчына", „Аршаншчына" і інш., а таксама высьвятляць дзейнасьці і працу краязнаўчых замежных організацый.

Выданьне штомесячніка з тэхнічнага боку—добрае.

**С. Кожаны.**

# Хроніка

### У „Маладняку“

* ЦБ „Маладняка“ паслала праз т-ва „Культурнай сувязі з заграніцай“ усе свае новыя выданьні па больш буйных гарадох Эўропы. У першую чаргу паслана каля 300 кніжак.

* З пачаткам новага навучальнага году распачне сваю дзейнасьць студыя „Маладняка“ пры комвузе. Студыя, акрамя творчай працы, будзе займацца вывучэньнем сучаснай беларускай літаратуры.

* Менская драматургічная сэкцыя „Маладняка“ за апошні час значна пашырыла сваю працу. У сэкцыі налічваецца 7 чалавек. Хутка маюць быць выданы першыя творы сэкцыі—комэдыі Рамановіча і Мышко.

* Магілеўская філія „Маладняка“ організавала літаратурную консультацыю для пачынаючых поэтаў і пісьменьнікаў.

Консультацыя атрымлівае шмат цікавага матэрыялу з месц.

* Аршанская філія „Маладняка“ выдала чарговы 5 нумар сваёй часопісі „Аршанскі Маладняк“. У гэтым нумары зьмешчаны артыкул т. Чарвякова аб „Аршанскай філіі Маладняка“.

### Мастацкія і культурныя весткі.

* У хуткім часе ў Менск зноў прыяжджае ленінградзкая опэра на чале з Дамаевым.

* Беларускае Дз. Кіно заарандавала памяшканьне „Дому Культуры“ пад новы рабочы кіно-тэатр „Пролетары“. Цяперашні кіно-тэатр „Пролетары“ распачне дэмонстраваць выключна замежныя фільмы і зьмяняе сваю назву на „Мастацкі кіно-театр“.

* Загадчык беларускага аддзелу Наркамасьветы РСФСР т. Лойка, які наведаўся ў Менск, падняў пытаньне перад Інбелкультам аб сумеснай організацыі катэдры беларусазнаўства пры Смаленскім Дз. Унівэрсытэце.

* У Пятніцкай царкве ў г. Мазыры знойдзены два срэбныя зьліткі, падобныя па форме да кіеўскай грыўні, але цяжэйшыя ад першай.

Апроч таго, знойдзен пярсьцёнак срэбны з вяночкам, ручны вуніяцкі крыж, і інш. рэчы.

* У пачатку верасьня г.г. мае быць скліканы чарговы пленум ЦБК з удзелам прадстаўнікоў ад кожнага акруговага т-ва, Горацкага і Асіпавіцкага раёнаў.

* У Слуцкай акрузе знойдзена біблія Міколы Радзівіла, якая надрукована ў Бярэсьці ў 1563 г.

Біблія будзе передана ў Беларускі Дз. Музэй.

* Беларускі Дзяржаўны Тэатр адчыняе свой зімовы сэзон з 3-га кастрычніка.

Сэзон адчыніцца новай беларускай п'есай.

* У рэпэртуар БДТ сёлета першы раз уключаны наступныя дзіцячыя п'есы: „Вільгэльм Тэль", „Дон-Кіхот" і „Пугачонак".

* Беларускае Дз. Кіно набывае ў Бэрліне партыю новай кіно-апаратуры. Для аформаваньня гэтай закупкі ў Бэрлін выяжджае загадчык Бел. Дз. Кіно т. Галкін.

* Па ініцыятыве ЦП саюзу прац. мастацтва ў Менску арганізуецца Т-ва Прыхільнікаў Савецкага Кіно. Асобныя ячэйкі Т-ва будуць утвораны пры заводах і фабрыках.

* Сёлета, увосень, у Менску адчыняецца кіно-студыя для асоб, жадаючых працаваць у галіне кіно. Студыя будзе існаваць пры Белдзяржкіно.

* Для сялян, якія зьнімаюцца ў фільме „Грышка сьвінапас", Белдзяржкіно адчыніла ў Прылуках кіно-перасоўку. Апошняя дэмонструе кіно-навінкі.

* 18 жніўня вярнулася ў Менск з падарожжа трупа Галубка, якая прабыла ў дарозе 4 м-цы. Трупа пабывала ў Бабруйскай, Магілеўскай, Аршанскай, Барысаўскай, Віцебскай акругах і ў г. Гомлі. За час свайго прабываньня яна паставіла 97 спэктакляў і 14 концэртаў. Сваё заданьне трупа выканала на ўсе 100 проц.

* ЦВК БССР асыгнаваў сродкі на набыцьцё для ІБК бібліотэкі проф. Доўнар-Запольскага, якая складаецца з 15. тысяч кніг.

* Нядаўна ў Магілеве адчынілася аддзяленьне Беларускага Музэю Рэволюцыі. У ваддзеле сабраны розныя матэрыялы з рэволюцыйнага жыцьця Магілеўшчыны.

* Музычная Сэкцыя Інстытуту Беларускай Культуры, па згодзе з галоўнай Управай Палітасьветы, прыступіла да арганізацыі беларускага студыйнага хору. У будучыне гэты хор мае быць рэорганізаваны ў дзяржаўную капэлю накшталт Украінскай.

**У яўрэйскай літгрупе „Юнгэр-Арбэйтэр".**

* Са сканчэньнем сэзону летніх водпускаў, Менская яўрэйская літаратурная група „Юнгэр-Арбэйтэр" распачынае сваю літаратурную працу ў Менску і на провінцыях.

* Значна замацаваўшыся за апошні год, „Юнгэр-Арбэйтэр" з восені г. г. прыступае да організацыі саюзу яўрэйскіх пролетарскіх пісьменьнікаў Беларусі з аддзяленьнямі на мясцох.

Гэты саюз увойдзе ў якасьці яўрэйскай сэкцыі ва Усесаюзную Асоцыяцыю Пролетарскіх Пісьменьнікаў.

* На працягу лета літгрупа „Ю.-А". здала ў друк зборнік піонэрскіх песень, выпусьціла некалькі літстаронак пры газэце „Юнгэр-Арбэйтэр" і супрацоўнічала ў часопісе „Штэрн".

* Некаторыя таварышы падрыхтавалі да друку свае творы, паміж імі дзьве аповесьці „На Барысаўскай зямлі" і „Ледаход".

* У бягучым годзе „Ю.-А" мае, пакуль што, 14 друкаваных аркушаў, плян выдавецкай працы значна абганяе гэты лік.

Міш іншым літгрупа проектуе выдаваньне таннай маленькай бібліотэчкі.

* Вядомы яўрэўскі поэта Беларусі Із. Харык—аўтар кнігі „На гэтай зямлі“—пастановай колегіі Наркамасьветы Беларусі ўзнагароджан стыпэндыяй імя Шолом-Алэйхэма.

* У сучасны момант яўрэйскі поэта Харык працуе над драматычнай поэмай, у асяродзьдзі якой стаіць мястэчка ў гады рэволюцыі.

Адначасова Харык працягвае сваю працу па перакладу беларускай лірыкі.

* Поэта З. Аксельрод супольна з т. Харыкам заканчваюць пераклад п'есы Жуль-Ромэна „Ив-Ле-Тру-адэк“ з тэкстам песен Як да яе. П'еса будзе пастаўлена Маскоўскім Яўр. Дз. Тэатрам.

* Бэлетрысты Мэеровіч канчае роман з жыцьця на Літве і Беларусі ў гады грамадзянскае вайны.

---



Адказны рэдактар: Рэдколегія.

# Зьмест

## Літаратурна-мастацкі аддзел



## Грамадзка-політычны аддзел